

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ – ЦАНА 30 Н. ФЭН.

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna“ („Das Vaterland“), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck. „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана: Нямеччына:** на год. — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 м. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл. **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка лётніцкай поштай каштуе падвойна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна. Паадзіночныя нумары газэты разам з «Каласкамі» ўважаюцца за падвойныя.**

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna“, Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“

THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "THE FATHERLAND"

№ 12-13 (496-497) — 25 Сакавіка 1960 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 14

# 1918 — 25 Сакавіка — 1960

## *Веліч сымбалю*

Сорак два гады... Няшмат ужо сярод нас тых, хто сорак два гады таму браў актыўны й беспасярэдні ўдзел у вялікім акце аднаўленьня нашае нацыянальнае дзяржаўнасьці — у абвешчаньні незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі. Шмат хто із стваральнікаў гэтае нашае народнае, дэмакратычнае дзяржавы скончыў свой жыцьцёвы шлях на выгнаньні, застаючыся да канца верным вялікім ідэалам Сакавіка; па шмат кім зь іх загінуў сьлед у турмах і канцлягэрох акупантаў. Тых-жа, што зыйшлі з вызначанага імі самымі шляху сорак два гады таму — мала, вельмі мала. На іхнае месца прыходзілі й прыходзяць іншыя, малодшыя. Яны ўліваюцца ў шэрагі тых, хто сваё жыцьцё й сілы прысьвяціў вялікай мэце, хто пасьлядоўна й нязломна змагаецца за адабраную свабоду й незалежнасьць нашага краю. Ворагі не шкадуюць высілкаў, каб пераканаць іх, што іхнае змаганьне дарэмнае, што беларускі народ забыўся ўжо аб тым, што ён сам ,вуснамі сваіх выбраных прадстаўнікоў, абвесьціў ўсяму сьвету сорак два гады таму. Але для тых, хто далей нясе сьцяг Незалежнасьці, якраз гэтае ўпорыстае пераконваньне з боку ворагоў зьяўляецца адным зь безьлічы нязьбітых доказаў, што так ня ёсьць, што гэта толькі жаданьне ворагаў. Колькі ўжо разоў напрацягу мінулых сарака двух гадоў яны трыюмфальна абвяшчалі аб паховінах нашага вызвольнага руху! Колькі разоў яны заяўлялі, што БНР «не было, несть и быть не может»! І адначасова яны не прапушчаюць бадай ніводнай нагоды, каб не заатакаваць таго, чаго паводля іх няма...

Зусім зразумела, што гэты неспакой з боку расейска-бальшавіцкіх валадароў Беларусі ў вялікай меры выкліканы дзейнасьцяй беларускай палітычнай эміграцыі ў вольным сьвеце. Гэтага бальшавікі не стараюцца ўжо навет і затаіць. Беларуская эміграцыя, і перш за ўсё воргаы Беларускай Народнай Рэспублікі на выгнаньні маюць усе падставы гэтым ганарыцца. Было-б, аднак, несправядлівым прыпісваць гэты неспакой ворагаў толькі вынікам **нашай** дзейнасьці. Скланяньне на ўсе лады, улад і неўпапад, маскоўскімі стаўленьнікамі гэтак званага «беларускага буржуазнага нацыяналізму» — зьявішча вельмі красамоўнае. Трэба быць сьляпым, каб ня бачыць у ім доказаў таго, што беларускі народ на бацькаўшчыне лучаць зь ягонай палітычнай эміграцыяй жывыя, непарыўныя сувязі; што саракагадовае расейска-бальшавіцкае панаваньне на Беларусі не зацьміла ідэалу Свабоды, няўміручым сымбалем якога зьяўляецца Акт 25-га Сакавіка, абвешчаны сорак два гады таму.

Ачарніць гэты Акт і ягоных стваральнікаў бальшавікі не шкадавалі высілкаў на працягу ўсяго свайго панаваньня. «Беларускія буржуазныя нацыяналістыя хацелі прадаць Беларусь чужынцам, хацелі прадаць беларускіх сялян абшарнікам, работнікаў — капіталістым», — вось стрыжань бальшавіцкай прапаганды. І як чорт крыжа, яна баіцца фактаў.

На якім-жа фундамэнце была абвешчаная незалежная Беларуская Народная Рэспубліка? Зьмест Акту 25 Сакавіка ведамы бадай кажнаму Беларусу на эміграцыі, і на ім спыняцца ня будзем. Аднак зьвернем увагу на адзін абзац гэтай Дэклярацыі Незалежнасьці,

**«БНР пацьвярджае ўсе тыя правы і вольнасьці грамадзян і народаў Беларусі, абвешчаныя Ўстаўнай Граматай ад 7 сакавіка 1918 году».**

Няма сумлеву, што калі-б бальшавікі маглі нейкім чынам «изъять» (які запраўды расейскі характар мае гэтае слова!) Другую Ўстаўную Грамату зь гісторыі, яны напэўна не пашкадавалі-б ні высілкаў, ні сяродкаў...

Прыгадаем галоўныя пункты гэтае Граматы-канстытуцыі БНР.

**«Беларусь у рубяжох расьсяленьня і лічэбнай перавагі беларускага народу абвяшчаецца Народнаю Рэспублікай».**

Інакш кажучы — Беларусь у этнаграфічных межах. Што-ж могуць супрацьставіць гэтаму бальшавікі? Яны гандлявалі й гандлююць далей беларускімі тэрыторыямі — Смаленшчына, Чарнігаўшчына. Віленшчына, Беласточчына — ці ўсё пералічыш? — нягледзячы на тое, што ў «канстытуцыі» БССР зазначана, што межы БССР ня могуць быць зьмененыя бяз згоды «сувэрэннай» БССР...

«...Абвяшчаецца **Народнаю** Рэспублікай». Народнаю — дэмакратычнаю. Ад часу-ж акупацыі Беларусі бальшавікамі беларускі народ ніразу ня меў нагоды сказаць сваё слова.

**«У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі абвяшчаецца свабода слова, друку, сходаў, забастовак, хаўрусаў; бязумоўная свабода сумленьня, незачэпнасьць асобы і памешканьня».**

Усе — літаральна ўсе гэтыя прынцыпы бальшавікі здушылі й патапталі. Няма навет і мовы аб тым, каб некаму была выбачаная крытыка бальшавіцкае сыстэмы. Свабода сумленьня, недатыкальнасьць асобы й памешканьня — усё гэта зьяўляецца цяпер пустым гукам. Забастоўкі ўважаюцца дзяржаўным злачынствам. І гэтак далей...

**«У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі... зямля перадаецца бяз выкупу тым, што самі на ёй працуюць. Лясы, азёры і нутро зямлі абвяшчаюцца ўласнасьцю Беларускай Народнай Рэспублікі».**

«Беларускія нацыяналістыя хацелі прадаць сялян абшярнікам...» Ці пасьля вышэйшае цытаты трэба падаваць яшчэ якія довады бязглуздасьці гэтага цьверджаньня? А цяпер — ці ў БССР не зьяўляюцца сяляне бясправўнымі батракамі-парабкамі маскоўскае дзяржавы-абшарніка?

Лясы, азёры й нутро зямлі былі абвешчаныя ўласнасьцяй Беларускай Народнай Рэспублікі, а не «прадаваліся чужынцам» ці «капіталістым». Ці можа быць у каго сумлеў, што стваральнікі БНР, якія выйшлі з гушчы народу і гэтым народам былі выбраныя, намагаліся стварыць у вольнай Беларусі такі сацыяльны лад, пры якім усе — сяляне й работнікі — цалкам карысталіся-б пладамі свае працы, былі гаспадарамі свайго лёсу? Цяпер-жа работнікам — «гаспадаром хвабрыкаў і заводаў» — забаронена навет дамагацца лепшых жыцьцёвых умоваў шляхам забастовак. Ці-ж гэта не дзяржаўны капіталізм у ягонай найгоршай форме?

**«У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі ўсе народы маюць права на нацыянальна-пэрсанальную аўтаномію; абвяшчаецца роўнае права ўсіх моваў народаў Беларусі».**

Ці можна падаць лепшы доказ шляхотнасьці беларускага народу? Беларусь, якой да 1905 году было забаронена навет карыстацца сваёй мовай, абвяшчае роўныя правы для моваў усіх — у тым ліку й для прадстаўнікоў сваіх былых паняволнікаў; канстытуцыйна прызнае ім нацыянальна-пэрсанальную аўтаномію, а гэта азначае — нацыянальныя школы, культурныя установы, царкву...

А цяпер? У гэтак званай «сувэрэннай» БССР пануе разгул расейшчыны, адбываецца сыстэматычнае вынішчэньне нацыянальнага патэнцыяналу беларускага народу й дзікая, неакелзаная русыфікацыя. Вось што супрацьстаўляюць бальшавіцкія акупанты ідэалам Беларускай Народнай Рэспублікі...

Змаганьне за ажыцьцяўленьне прынцыпаў, на падставе якіх сорак два гады таму была абвешчаная незалежнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі, ня спыняецца ні на хвіліну. У гэтым змаганьні мы здабываем штораз больш сяброў і сымпатыкаў сярод палітычных колаў вольнага сьвету. Няхай нас не зьнеахвочвае той факт, што знаходзяцца яшчэ й такія «антыкамуністычныя» колы або установы, якія, ліючы ваду на млын расейскаму бальшавізму, не падтрымоўваюць нашае справы. На шчасьце, яны ўжо ў меншыні й асуджаныя на выміраньне, як асуджаныя на выміраньне ўсе прыхільнікі гістарычнага анахранізму — каляніялізму. І яны ня зьменшаць велічы Акту 25 Сакавіка — непераможнага сымбалю Свабоды, які дае нам і цэламу нашаму народу сілу ў змаганьні й веру ў перамогу.

**Ул. Неманавіч**

## *ЗВАРОТ*

*ПРЭЗЫДЭНТА МІКОЛЫ АБРАМЧЫКА*

*Дарагія Суродзічы ў вольным сьвеце!*

*Вітаю Вас усіх із сорак другімі ўгодкамі абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі й жадаю Вам усім сілы й вытрываласьці ў Вашым цяжкім змаганьні за аднаўленьне Вольнай і Незалежнай нашай дзяржавы — Беларускай Народнай Рэспублікі.*

*Я глыбака перакананы, што Вы ўсе, у грудзёх якіх моцна б'ецца беларускае сэрца — будзеце й далей высака несьці наш вызвольны сьцяг да канчальнае перамогі.*

*Жыве Беларуская Народная Рэспубліка!*

*Жыве Беларускі Народ у змаганьні!*

*МІКОЛА АБРАМЧЫК*
*ПРЭЗЫДЭНТ РАДЫ*
*БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ*

*Нью Ёрк, 25 Сакавіка 1960 г.*

## Ад Беларусаў з Корсыкі

**З нагоды Сакавіковага Сьвята, мы, Беларусы, інтэрнаваныя на Корсыцы ў сувязі з прыездам Хрушчова ў Францыю, перасылаем нашыя найшчырэйшыя прывітаньні ўсім тым, што змагаюцца за волю нашага народу і заклікаем узмоцніць свае намаганьні ў барацьбе з нашым адвечным ворагам — Масквою й бальшавізмам, які ня спыняе нас перасьледваць як на Бацькаўшчыне, так і тут на эміграцыі.**

**Жыве Беларусь!**

**Ад імя ўсіх Беларусаў на Корсыцы (Подпісы. Надпісаныя просяць прозьвішчаў не падаваць)**

**Корсыка, 22. 3. 1960 г.**

## Праўда й няпраўда пра БНР

У чацьвертым томе «дакуммэнтаў і матар'ялаў» «Из истории установления советской власти в Белорусии и образования БССР» (Менск, 1954, б. 333) ёсьць гэткі дакумэнт:

«1917 г., сьнежаня 17 (30). — Паведамленьне аб роспуску нацыяналістычнага зьезду, скліканага контррэвалюцыйнай «Беларускай радай».

«На загад Савету Камісараў распушчаны «беларускі зьезд». Асноўны матыў — жаданьне «беларускага зьезду» стварыць у краі сэпаратна-паралельную нацыяналістычную ўладу й непадпарадкаваньне існуючай уладзе Саветаў. Дэлегатам зьезду запрапанавана на працягу 24 гадз. выехаць у свае мясьціны. У часе зьезду ягоныя кіраўнікі дзеілі сэпаратна ды ня імкнуліся знайсьці агульны кантакт зь існуючай Савецкай уладай. — Газэта «Советская правда» № 15 ад 19. XII. 1917 г. (1. I. 1918 г)».

Як ведама, гэтаму бальшавіцкаму загаду Ўсебеларускі Кангрэс не падпарадкаваўся, і сваю працу перапыніў часова толькі пад націскам зброі бальшавіцкіх акупантаў, усё-ж завяршыўшы яе ў іншым месцы.

Паводля аўтараў кнігі «История Минска» (АН БССР, Менск, 1957, б. 259) Усебеларускі Кангрэс «сваім складам быў чарнасоценна-буржуазным». Бальшавікі ў вачэрніваньні гэтае гістарычнае падзеі перабралі ўжо ўсе магчымыя эпітэты, дакаціўшыся аж да абсурднага «чарнасоценна-буржуазнага». Чарнасоценства, як ведама, зьява чыста расейска-шавіністычная, рэакцыйная, і несумяшчальная (зразумела, на здаровы розум) зь незалежніцтвам.

Пра Ўсебеларускі Кангрэс у Менску ў сьнежані 1917 году ёсьць шмат красамоўных і праўдзівых сьветчаньняў. Да іх дадамо цяпер яшчэ адно, гэтым разам з польскага боку. Дзеля таго, што паміж БНР і Польшчаю вялікае прыязьні не магло быць у сілу польскае захопніцкае палітыкі ў дачыненьні да Беларусі, з глядзішча гістарычнае крытыкі польскія сьветчаньні пра БНР павінны быць больш пераконлівымі для скэптыкаў у гэтым пытаньні. Гутарка тут ідзе пра выдадзеную ў 1920 г. (значыцца, усяго праз два гады пасьля Кангрэсу) у Варшаве невялікую кніжыцу:«Веслав Каліновскі. Квэст'я Всодня а Бялорусь». Вось што піша аўтар зь беспасярэднае прастораваe й часавае адлегласьці пра Ўсебеларускі Кангрэс 1917 году:

**«Перш-наперш зварачае на сябе ўвагу Ўсебеларускі Кангрэс, скліканы ў канцы сьнежаня 1917 году. Зьехалася туды ўсё, што ад воласьцяў, ад паветавых і губэрнскіх земстваў, ад местачкавых самаўрадаў, каапэратываў, работніцкіх прафэсійнальных, беларускіх вайсковых згуртаваньняў з усіх франтоў, усялякіх грамадзкіх арганізацыяў, палітычных партыяў Беларусі й г. д. Беспасярэдня Кангрэс абыймаў прадстаўнікоў губэрняў Менскае, Магілеўскае, Віцебскае, беларускіх частак Смаленшчыны (разам зь местам Смаленскам — 10 дэлегатаў ад гарадзкога самаўраду) і Чарнігаўшчыны, а таксама вольных яшчэ тады ад нямецкае акупацыі ўсходніх паветаў Віленскае губеэрні; пасярэдна — заходняе Віленшчыны й Горадзеншчыны ў васобе дэлегатаў ад выгнанага з родных мясьцін жыхарства адступаючым расейскім войскам. Усіх разам зьехалася каля 2000 дэлегатаў, упаўнаважаных пастанаўляць аб долі цэлае Беларускае зямлі. І яны наважана пастанавілі, што Беларусь ад таго часу павінна стацца асобнай дзяржаўнай адзінкай у форме Беларускае Народнае Рэспублікі...»**

Прачытаўшы гэта, лягчэй становіцца разумець і гэны, пададзены вышэй, бальшавіцкі дакумэнт. Ня дзіва, што «ў часе зьезду ягоныя кіраўнікі дзеілі сэпаратна ды ня імкнуліся знайсьці агульны кантакт зь існуючай Савецкай уладай»: за Кангрэсам была ўся Беларусь, супраць яго — насільле маскоўскіх акупантаў...

* * *

Пачнем ізноў ад бальшавіцкіх цьверджаньняў.

Адзін з галоўных бальшавіцкіх прапагандыстых ЦК КПБ, а цяпер ужо й ака-

(Заканчэньне на 2-ой бач.)

# Справа Савіча й іншых

Усім дыктатарам уласьціва агульная хвароба: самая супярэчлівая хлусьня, дэмагогія, фальсыфікацыі... Але, глыбей падумаўшы, дык інача[й] і быць ня можа, бо дыктатары й іхныя прыхільнікі зьяўляюцца ў грамадзтве абсалютнай мяншынёй і, трымаючы ў руках уладу, знаходзяцца на вельмі хісткім груньце. На гэтакае становішча ў нас, Беларусаў, ёсьць прымаўка: чуе кошка, чые, мяса зьела! Мана, перакручваньня фактаў, усемагчымае заблытваньне праўды патрэбны ім, каб ня выпусьціць із сваіх рук салодкі пірог улады, каб панаваць над людзьмі. Як было ўжо заўважана, гэта датычыць абсалютна ўсіх дыктатур, незалежна ад таго, ці яны заснаваны на партыйным, расавым, клясавым, ці якім-небудзь іншым прынцыпе.

Уласьціва гэта й савецкай сацыялістычнай дыктатуры, хоць яна й называе сябе самай дэмакратычнейшай дэмакратыяй, і ўласьціва навет больш, чым якім-небудзь іншым дыктатурам. «Спушчана» дырэктыва партыі ўсхваляць «шчасьлівае» калгаснае жыцьцё, у той час, як калгасьнік грыз «хлеб» зь бярозавай кары, і яго ўсхвалялі ўсюды і на ўсе лады, пачынаючы ад селькора калгаснай газэты й аж да ўбеленага сівізнай акадэміка ўсіх шастнаццаці савецкіх акадэміў навук. Потым, калі, у зьвязку з вайной, высьветлілася, што ленінская нацыянальная палітыка, заснаваная **на прыорытэце** расейскага народу над іншымі, пачала даваць трэшчыну, спусьцілі дырэктыву ўсхваляць «бескарысныя дабрадзействы» старэйшага брата, і ўвесь прапагандовы аўтамат, пачынаючы ад раённых газэт і, зноў-жа, аж да таго-ж акадэміка, залемантавалі ўва ўсе рупары аб гэтым, не саромячыся хлусіць у вочы, што ніякіх заваёў меншых народаў з боку расейскага ня было, — проста у гэтых меншых народаў была заўсёды **«гістарычная тэндэнцыя»** далучыцца да Расеі, як больш культурнай і прагрэсыўнай, і яны далучыліся. Гэтым была падведзена із спазьненьнем ідэялягічная база пад захоп у канцы XVIII стагодзьдзя цэлага шэрагу незалежных дзяржаваў, у тым ліку і Літвы, якая заўсёды ўяўляла сабой прыклад для Маскоўскай дзяржавы ўва ўсіх галінах культуры, тэхнікі й ваеннага мастацтва ды дапамагала ёй зрабіцца культурнай. Аб гэтым сьветчаць шмат гістарычных фактаў: выпісваньне зь Літвы маскоўскімі царамі друкароў, архітэктаў, спэцыялістых у ваеннай справе, мастакоў, настаўнікаў і г. д., аб чым цяпер савецкая прапаганда ня толькі маўчыць, але й забараняе іх выцягваць на сьвет. Забараняе яна выцягваць на сьвет і тыя факты, колькі было забіта выдатнейшых Ліцьвінаў (Беларусаў), пратэставаўшых супроць **«гістарычнай тэндэнцыі»** аб далучэньні да Масквы, колькі замучана ў турмах і ссылках, саслана навечна ў катаргі, аддната на 25 год у салдаты і г. д.

І, цікава адзначыць, найбольш спаборнічаюць у гэтым хвальшаваньні й стараюцца высунуцца наперад, якраз, прадстаўнікі інтэлігэнцыі гэтых «малодшых братоў», у тым ліку — і інтэлігэнцыі беларускай, што зьяўляецца непахісным доказам іхнага неперяможнага страху перад дыктатурай «старэйшага брата». І, трэба сказаць праўду, страх гэты зусім рэальны, апраўданы: яшчэ ня было выпадку, каб Беларуса саслалі ў **«места столь отдалённые»** за тое, што ён, зьяўляючыся грамадзянінам Беларускай Рэспублікі, пагарджаў правамі свайго народу, абражаў нацыянальную годнасьць Беларуса — фактаў такіх колькі хочаце ў жыцьці і навет у савецкім беларускім друку ,— але, былі сотні тысяч выпадкаў, калі Беларусаў ссылалі ў гэтыя-ж «аддалёныя» мяйсцы і, навет, адбіралі самаё жыцьцё, за адно толькі слова супраць няпрошаных узурпатараў Беларусі. У такой сытуацыі для «слабавольных» ёсьць нармальным хлусіць, хвальшаваць і ліць усякі бруд на свой народ: **абы толькі не падумалі адваротнага.**

Але будзем больш канкрэтнымі. Як ведама, падзел, аслабленай бязупыннымі войнамі з Масквой «Рэчы Паспалітай» (саюзнай дзяржавы Польшчы й Літвы (Беларусі), вынікам якога было жудаснае душэньне расейскім урадам нацыянальнага жыцьця на гэтых абшарах, а **асабліва на Ліцьве (Беларусі),** выклікаў ня толькі ў краю, але і за мяжой, магутны выбух пратэсту. Пратэст гэты, нягледзячы на тэрарыстычныя намаганьні царскага расейскага ўраду, не заціхаў ні на адзін момант аж да 1917 году, калі ахвярай слабых пала й сама расейская імпэрыя. Ужо ў першыя годы XIX стагодзьдзя, г. зн. праз які дзесятак год пасьля падзелу, уся Літва (Беларусь) ды й Польшча былі ахоплены падпольнымі нацыянальна - вызваленчымі дэмакратычнымі арганізацыямі, якія ставілі сваёй мэтай вызваленьне з-пад акупацыі й зьнішчэньне татальнага расейскага дэспатызму, як рэакцыйнай сілы ў Эўропе, а асабліва на яе ўсходняй частцы.

Гэтыя арганізацыі складаліся, галоўным чынам, з моладзі і, асабліва, вучнёўскай. Школы стыхійна ўрасталі ў гэты рух і пертвараліся ў расаднікі ненавісьнікаў расейскага ўраду, разам зь ягонай галавой царом. Аб гэтым сьветчаць архіўныя дакуманты таго часу. Вось адзін зь іх (захоўваецца ў Цэнтральным архіве сучаснай Літоўскай рэспублікі, у Вільні). У ім прыводзіцца факт, што ўжо ў 20-х гадох XIX стагодзьдзя Сьвіслацкая гімназія (Гарадзеншчына) была пад «нягласным» наглядам царскай паліцыі, як расаднік вызвольнага руху Беларусаў.

«... Вучань Глазэр на вачох таварышоў закрэсьліў у маліцьве словы «і государю-же»... Улады надзвычай напалохаліся. Выканаўца абавязкаў рэктара Віленскага Ўнівэрсытэту, (які тады яшчэ ня быў зачынены й пад наглядам якога знаходзілася гімназія — М. С.) у сваім рапарце да «папячыцеля» Віленскай навучальнай акругі паведамляў:... **«и прежде сии случавшиеся беспорядки доказывают поселившийся в тамошнем юношестве беспокойный дух...»** (Час. «Беларусь», № 11, 1959).

Мы ведаем, што гэтую-ж гімназію скончыў пазьней Кастусь Каліноўскі.

У першай палове гэтага-ж стагодзьдзя, царскім уладам пашанцавала выкрыць адну з гэтых нацыянал-дэмакратычных беларускіх арганізацыяў. Была яна закладзена, па некаторых вестках, у 1836 годзе студэнтам-Беларусам Віленскай Хірургічнай Акадэміі (узьнікшай на мейсца зачыненага царскім урадам Віленскага Ўнівэрсытэту, Францішкам Савічам зы сваімі таварышамі-родзічамі, таксама студэнтамі. У яе ўваходзіла да двох дзесяткаў добра закансьпіраваных актыўных сяброў, гэта: сам **Фр. Савіч,** сын прыходзкага сьвятара в. Віляціч, Менскай губ.: **Іван Загорскі,** сын безьзямельнага шляхціца (двараніна) Луцкага павету, католік: **Казімер Рабчынскі,** адзінадворац Себескага павету, Віцебскай губ, католік; **Іван Машкоў,** сын калескага асэсара, праваслаўны: **Астап Вароніч,** з безпаместнай шляхты Віцебскай губ. праваслаўны; **Фэлікс Здановіч,** сын уніяцкага сьвятара зь Лідзкага павету; **Яўхім Барташэўскі,** католік; **Мацэй Лявіцкі, К. Стахоўскі** і інш.

Па-першае, кідаецца ў вочы разнастайнасьць веравызнаньняў і сацыяльнага стану ўдзельнікаў гэтае арганізацыі, што ёсьць пацьверджаньнем думкі аб ахапленьні вызваленчымі ідэямі ўсяго насельніцтва тагачаснай Беларусі (Літвы). Па-другое, усе яны бачылі няшчасьце свайго народу ў рэакцыйных, імпэрыялістычных тэндэнцыях Расеі. Гэта відаць з таго апэлю арганізацыі да расейскага народу, які быў знойдзены ў паперах справы. У ім расейскі народ заклікаецца не будаваць свайго шчасьця на няшчасьці іншых. **«...Браты Расейцы!... Хіба дух Пэстэля (дэкабрыста, павешанага царом), ягоная сьмерць за вас і за вашае шчасьце не павінна ўзброіць вас справядлівай думкай?... Хутка ў сэрцах юных Расіян адгукнецца новае жыцьцё... І даведаюцца цудоўныя юнакі Расеі, што народ іхны, які быў нашым катам, зьяўляецца толькі братам нашым...»** Па-трэцяе, на думку ўдзельнікаў арганізацыі ў вызвольным руху павінны браць удзел усе падбітыя Масквой народы. З гэтай мэтай, арганізацыяй відавочна былі ўчынены нейкія захады. У літаратурным матар'яле (верш самога Савіча, які быў не абы якім паэтам), падшытым да справы, Ліцьвін (Беларус) заклікае Ўкраінца (валынца) падаць друг-дружку рукі і прысягнуць перад Богам на змаганьне за волю і шчасьце сваіх народаў...

Такім чынам, зусім відавочна, што арганізацыя гэта кіравалася **ідэяй нацыянал-дэмакратычнай,** і ніяк не інтэрнацыянальнай. Гэта відаць яшчэ і з рукапісу самаго Савіча пад назовам «**Заўвагі аб маральным змаганьні народу з дэспатызмам, або — якое наша (беларускае — М. С.) становішча і што цяпер трэба рабіць людзям паспалітым».** У ім гаворыцца, што маскоўскі дэспатызм абвясьціў маральную вайну падбітым народам, вынішчае іхную нацыянальную культуру, мову, традыцыі, звычаі, нацыянальныя гістарычныя помнікі і г. д.

Між іншага, трэба зазначыць, што нацыянальная дэмакрацыя — гэта зьява чыста беларуская. Справа ў тым, што беларускі народ, у зьвязку з згубай сваёй дзяржаўнасьці ў выніку падзелу «Рэчы Паспалітай», зь якой Беларусь была ў саюзе, перажыла вялізарнейшы сацыяльны зрух. Кіруючая каста (магнацтва), аб чым ужо ня раз пісалася, адразу-ж пасьля падзелу, пакінула на волю лёсу свой народ, перайшоўшы або на бок заваёўніка — Расеі, або да Польшчы, якой, тым часам, усё-ж пашанцавала часткова захаваць аўтаномію, а значыць і культуру, і мову. Тых, хто гэтага не зрабіў, чакаў сэквэстар, і яны апынуліся на становішчы безпаместнай шляхты, калі не на горшым. Драбнейшае служылае беларускае саслоў'е пайшло па іхных сьлядох. Што-ж датычыць шляхты дробнай — рыцарства, якое абараняла дзяржаву ў войнах, дык яно цяпер было лішняе з сваей ненадзейнасьці для маскоўскай дзяржавы і перайшло на становішча звычайных сялян. Купецтва і местачкоўцы (мяшчане) таксама мусілі шукаць нейкага выйсьця, з прычыны перанясеньня цэнтраў гандлю ў Маскоўшчыну ды ў Польшчу. Такім чынам, беларускі народ ужо тады складаўся амаль з аднаго сялянства («мужыкоў»). Аб вызваленьні гэтага народу і йшла гутарка, — якая-ж магла быць іншая дэмакрацыя, калі не народная? І не дарма беларускія дзеячы пазьнейшага пэрыяду (20-х гадоў бягучага стагодзьдзя) прынялі на сябе гэты назоў!

І тым ня менш, рэдакцыя часапісу «Полымя», спыняючы сваю ўвагу на гэтай арганізацыі ўжо ў другі раз (№№ 4, 1958, 11, 1959, **намагаецца выхаласьціць зь яе ўсё нацыянальнае і зрабіць з самога Савіча і зь ягоных паплечнікаў стопрацэтавых інтэрнацыяналістых** (накшталт расейскіх сацыял-дэмакратаў), якія, быццам-бы, толькі і думалі, каб **«воссоединиться»** зь вялікай Мутушкай Расеяй. Для гэтай мэты да справы прыцягваюцца за вушы Чарнышэўскі, Бялінскі, Дабралюбаў, Пісараў, Гэрцэн, Пэсталь і іншыя расейскія дзеячы, якія, між іншым, ніколі беларускага народу, як апрычонага, асобнага ад расейскага, ня прызнавалі, а значыць у нацыянальным пытаньні падзялялі пазыцыі расейскай рэакцыі начале з царом.

Робіцца гэта рэдакцыяй «Полымя» на той падставе, што ў успомненых архіўных матар'ялах трапляюцца такія дэвізы, як «**волю нацыям», «усе нацыі роўныя», «не павінна быць нацыянальнай ненавісьці»** ды, **«каб уваскрасіць вольнасьць, неабходна аб'яднаць Вільню, Кракаў Маскву і Кіеў».** Што датычыць вольнасьці і роўнасьці нацыяў, дык толькі вар'ят можа пярэчыць гэтаму. Але-ж, тут і намёку няма на **«воссоединение»!** Таксама бясспрэчна і тое, што Савіч і ягоныя таварышы ў аб'ядняньні Вільні, Кіева, Кракава і Масквы бачылі толькі спосаб больш пасьпяховага агульнага змаганьня якраз з гэтай Масквой, зь ейным дэспатызмам.

Для нас справа тут ясная: прызвычаеныя **да выпіраньня на першае мейсца «вялікага расейскага народу»** паднявольныя менскія пісакі ніяк ня могуць зразумець —**«як гэта так — воля нацыям»,** або **«усе нацыі роўныя», тады-ж няма**

(Заканчэньне на 3-яй бач.)

# Праўда й няпраўда пра БНР

(Заканчэньне зь 1-ай бач.)

дэмік, Цімафей Гарбуноў у сваёй кніжцы «Узьеднаньне беларускага народу ў адзінай савецкай сацыялістычнай дзяржаве» (Менск, 1952, б. 25) піша пра 1918 год:

«Для прыкрыцьця сваіх захопніцкіх мэтаў нямецкія акупацыйныя ўлады стварылі шырму — гэтак званую «Беларускую раду»... Контррэвалюцыйныя беларускія нацыяналісты былі агентамі германскага імпэрыялізму». Тоесамае знаходзім мы і ў спамінанай ужо «Истории Минска» (б. 265), падмацаванае аўтарытэтам Акадэміі навук БССР:

«Акупанты падтрымвалі контррэвалюцыйныя арганізацыі. Зь першых дзён акупацыі ў Менску ўсплыла на паверхню й узмоцніла сваю прадажную дзейнасьць «Беларуская рада».

Паглядзем-жа, што пісаў у 1920 годзе пабочны, не зацікаўлены ў падтрымваньні беларускага нацыяналізму, польскі сьветка В. Каліноўскі:

**«Калі Берасьцейскі трактат далучыў Віленшчыну й Горадзеншчыную да будаванае Немцамі Летувы, а 10 паўдзённых паветаў Горадзенскае, Менскае, Магілеўскае і Чарнігаўскае губерняў — да Украіны, Рада Беларускае Народнае Рэспублікі, не зважаючы на варожае дачыненьне акупацыйных нямецкіх уладаў, у Менску на дванаццацёхгадзінным пленарным пасе джаньні ўначы а 24 на 25 сакавіка 1918 году выступіла з катэгарычным пратэстам супраць гвалту з боку Нямеччыны й Расеі...» (Тут В. Каліноўскі падае поўны тэкст Трэйцяе ўстаўное граматы Рады БНР.)**

**«Гэтае становішча (г. зн. абвешчаньне незалежнасьці БНР — Я. З.) выклікала зразумелае абурэньне нямецкага ўраду: бо яно нявечыла пляны Нямечыны, што палягалі на забясьпечаньні дарогі з Прусіі на Ўкраіну цераз Горадзеншчыну (чыгунка з Кэнігсбэргу на Беласток—Бельск—Берасьце), далучаную да Летувы — тады саюзьніцы Нямеччыны, — а таксама цераз паўдзённую Меншчыну (водны шлях Нёман—Шчара—Канал Агінскага—Яселда—Прыпяць—Дняпро), што была далучана да паняволенае Нямечынай Украіны ды станавіла сабой найбольш лясістую мясцовасьць, вельмі выгадную для эксплятацыі. Дзеля гэтага нямецкія акупацыйныя ўлады ўсімі спосабамі намагаліся перашкодзіць будаваньню беларускае дзяржаўнасьці; перашкоды выявіліся ў канфіскацыі беларускага скарбу, лічных арыштах сяброў вайсковых арганізацыяў, пазбаўленьні работы працаўнікоў беларускага ўраду — за выняткам школьніцтва, якое адно пад канец акупацыі было перададзенае Беларусам».**

Гэтак гавораць пра БНР гістарычныя сьветчаньні, зьбіць якіх нельга ні аўтарытэтам «акадэміяў», ні хлусьнёй фальсыфікатараў, ні гвалтам акупанта.

Я. Запруднік

Уладзімер Глыбінны

# Пётра Абуховіч, Рывэр-сайдзкі мрыйнік

На сходзе дня захад палымнеў такою пярэстаю зыркаю чырваньню, што ў мейсцы сутыку з даляглядам яна нагадвала густую кроў. Чым вышэй падымалася вока ад гарызонту, тым больш яно лашчылася мяккімі, незаўважнымі пераходамі ў суцэльнае аранжавае мора над галавой. Яно бясконцаю ружовою роўнадзяй акуналася дзесьці ў вышыні ў нявыразны блакіт, каб далей на ўсходзе ўжо сінець васільковай чысьцінёй у дрыготным чаканьні часу зьмярканьня, калі на ім выйдуць пасьціся нязьлічаныя чарады халодных зорак. Зыркую чысьціню чырвані адно на доле перабівалі кучаравістыя, у агні вечаровага пажару, бялявыя ад сонечных адбіткаў па краёх. нібыта застылыя ў нярухомасьці, хмарыны.

Павялічанае агністае сонечнае кола яшчэ ледзь кранулася сваім краем далёкіх вяршынаў узгорыстага за Гадзанам і ўжо пацямнелага наводдалі Нью-Джэрсі. Яно асьляпляльнымі і да нясьцерпнасьці іскрыста-ружовымі пасмамі залівала з-паўдня Мост Вашынгтона. Ягоны масыўны зялезны касьцяк, здавалася, увесь з ног да галавы купаўся ў вечаровым захадзе. Далёкабачныя іскрыстыя бліскаўкі бегалі па ягоных высокіх мэталёвых агарожах і пырскалі ў вочы адбіткам безьлічы бязгучных маланак. Іх лавілі й адкідалі далей у прастору малесенькія здалёку, нібыта цацкавыя, аўтамашыны, што бясконца нейкімі бліскучымі гузікамі хутка праносіліся па сталёвай стужцы ў абодвы канцы маста.

Пётра Абуховіч доўга ня мог адарвацца вачыма ад гэтага дзівугоднага відовішча. Ён падоўгу затрымоўваў свой зрок на кажнай дзялянцы надзіва выразна бачнага цяпер маста, бегаў зрокам за бялявымі ў зыркім сьвятле і на адлегласьці нібыта аднаго сталёвага колеру машынамі. Затым ён пераводзіў зрок на пакручасты супрацьлежны бераг Гадзана, за высокай сьцяной якога на ўзвышшавай прасторы высіліся ў вечаровую пазалацы радыёвыя мачты й тырчэў пацямнелай сьцяною цэлы лес атракцыённых пабудоваў Эм'юзмэнт Парку.

Гэта быў час заўсёдных пагулянак Пётры Абуховіча панад берагам Гадзана уздоўж Рывэр Сайд Парку. Ён любіў гэтыя мясьціны больш, чымся абы-якое іншае мейсца ў Нью-Ёрку. За восем гадоў перабываньня на зямлі Вашынгтона, Пётра ўжо колькі разоў зьмяніў мейсца побыту. Даводзілася яму жыць і ў Брукліне, і ў Бронксе і нат' у люксусовых дамох ў Асторыі ў Квінсе. Але нідзе ён ня бачыў такога выгоднага мейсца для штодзённых спацыраў, як тут, у верхнім заходнім Мэнгэтэне, на гэтым Рывэр Сайд Парку. Яно, праўда, і тут ад машынаў няма супакоў. Па абодвы бакі вузкое паласы парку, на самім Рэвэр Сайдзе і па Гадзан Паркувэю дзень і ноч няспынна людзі кудысьці імчацца і імчацца ў сваіх «карах».

«Якое-ж ліха іх гоніць па ўсіх дарогах, малых і вялікіх, штодзень і штоночы ўва ўсе канцы Амэрыкі? — раздумваў часта Пётра, седзячы на лаўцы ў засені невялічкіх, стала падразаных і таму запыленых у росьце, бульварных дрэваў. — Чаму ніколі няма на іх спыну? І гэта-ж часьцей у машыне на сем або восем мейсцаў сядзіць усяго адзін пасажыр! І дзеля сябе аднаго ён займае сваёю гаргараю гэтулькі мейсца, а колькі-ж ён аднае тае гары выпусьціць! А ўсе разам псуюць гэтулькі паветра, што ніякімі лічэбнікамі яе ні падлічыш! Сядзіць той шофэр з цыгаркаю ў роце, разваліцца на сядзеньні, нібы той ганарлівы індзюк, ды скрозь адно толькі на кажным спыне сыгналіць ды ўсё на бэнзын націскае, каб хутчэй даехаць туды, адкуль за кароткі час будзе імчацца на ўвесь дых назад, каб пасьля зноў тым-жа шляхам пыхцець у тым-жа кірунку. І часьцей гэта ні гэтак з патрэбы, як ізь сьведамасьці, што мае даўжэзную бліскучую, як люстранае шкло, новую машыну, на якой можа абы куды ехаць. І хоць, магчыма, улез на колькі гадоў па самыя вушы ў даўгі перад банкам ды мусіць заўсёды дрыжаць, каб ня страціць магчымасьці зарабляць і выплачваць пазыку. Але затое ён мае ўяву валоданьня найноўшаю мадэляю й можа ганарыцца ёю перад сваімі зайздроснымі да ўсялякае апошняе маркі калегамі. Гэта-ж ён можа дзеля апраўданьня свае фатыгі й езьдзіць узад і ўпоперак, загрувашчвае й без таго пераладаваныя амэрыканскія дарогі. Але-ж хіба загадаеш яму? „Фры кантры", каждаму воля! Рабі, што загадвае сэрца!»

«І што гэта будзе за колькі дзесяткаў гадоў! — думаў далей Пётра, устурбаваны нярадаснай пэрспэктывай далейшага пашырэньня бэнзынавага рухавіка. — Гэта-ж прыдзецца тады той Гадзан гайуэй пашыраць або ў бок вады, або даводзіць ягоную прастору аж да гэтага бульвара. І ці ўтрымаецца тады і гэтая, ужо й цяпер вузкая паласа Рывэр Сайд Парку? Ці ні выцiснуць тады бэнзынавыя смуроднікі й асфальт гэты апошні тут кавалачак зеляніны? І дзе-ж тады пацешыцца стомленая душа чалавечая ў тым шумлівым тлуме, ад якога й цяпер ужо часта бывае нясьцерпна?

І ён з жалем паглядзеў на закругленыя, як зялёныя шары, стрыжаныя вяршаліны ясеняў, што зрэдку наводдалі адзін ад другога шэравата-рудымі камлямі вартавалі гэты закутак уздоўж двух шэрагаў зялёным пафарбаваных лавак. Пад імі, як пад дзюравым парасонам, скрозь густа прабіванымі промнямі, цягнуліся зялёныя палосы падстрыжанай траўкі. І як на яе ні ціснулі шумамі і бэнзынавай гараю з двух бакоў асфальтаваныя дарогі, як ні насядаў з бакоў і зьверху ўедлівы руды пыл, што неадчэпнай пацярухаю густа клаўся на лісьцё дрэваў і ўкрываў сабою каждую зялёную сьцяблінку, адымаючы ад яе зялёную сьвяжыню, аднак прырода рабіла і тут свой непераможны цуд. Як ні стараліся штатныя гарадзкія садаводы карнаць зялёныя парасткі адмысловымі касілкамі, як бязьлітасна яны ні падразалі кажную заўважаную імі не на мейсцы галінку, кажнае раніцы можна было заўважыць, як пасьля асьвяжальнай халоднай расы зноў пачыналі адрастаць зґвалчаныя атожылкі, на старых карэньчыках зеляніцца новыя травінкі, а праз зраненую кару таполяў высоўвацца новыя жывучыя гучкі. Кажны новы парастак непераадольна цягнуўся да сонца і нагбом піў і піў ранічную вільгаць, каб набірацца сілаў для адоленьня чарговага наступу чалавечых рук заўсёды гатовых з новай ярасьцяй накінуцца

# Пытаньне Беларускае Багаслужбы

Колькі часу таму аўтар гэтых радкоў крыху закрануў галіну беларускага царкоўнага пяяньня. Артыкул выклікаў пэўную ўвагу і ў сувязі зь ім на бачынках «Бацькаўшчыны» зьявіліся розныя думкі, пасьля якіх я палічыў сваім абавязкам даць больш пашыраныя й паглыбленыя зацемкі.

Напачатку крыху гісторыі, безь якое немагчыма весьці паважную размову. Як ведама, царкоўная музыка й пяяньне прыйшлі ў славянскія краіны разам зь вераю зь Бізантыі. Аднак тут царкоўная музыка, на роднай глебе, стала на **самастойны шлях разьвіцьця.** Царкоўныя тэксты багаслужбаў атрымалі шмат розных «расьпеваў». «Расьпеў» — гэта ня просты сьпеў, а творчая праца, кампазыцыя напеву, выраз тэксту ў музычным выглядзе, інтанацыйна-мэлядычным і ладавым разбудаваньні. Назовы «расьпеваў» даваліся паводля нацыянальных адзнакаў: грэцкі, баўгарскі, сэрбскі; паводля тэрыторыяў: кіеўскі, яраслаўльскі, смаленскі; паводля назоваў манастыроў: іпацеўскі, пячэрскі, траецкі, і нарэшце, паводля прозьвішчаў іхных складальнікаў: Рогаўскі, Галыша, і г. д. Найбольш старадаўным і асноўным «расьпевам» у праваслаўнай багаслужбе было гэтак званае **знаменнае,** зь пяяньня **па крукох.** Добра ведамае было і гэтак званае **«дамественнае» пяяньне** (зь першапачатку хатняе, пазацаркоўнае духоўнае пяяньне), больш багатае і ўпрыгожанае мэлядычна.

Усе гэтыя расьпевы рабіліся на аснове сыстэмы **васьміголосься,** дзе кажны «голас» станавіў сабой собскі непаўторны царкоўна-музычны лад, формулу напеву. Сыстэматызаваны выгляд («свод») усяго кола царкоўнага пяяньня атрымаў назоў праваслаўнага **абіходу** (зацьверджаны быў у 1772 г.)

На грунце старых расьпеваў і асабліва знаменнага расьпеву ствараліся і кампазыцыі духоўнай музыкі. Было, праўда, і шмат твораў арыгінальных. але заўсёды перавагу мелі тыя, хоць і арыгінальныя творы, якія былі пабудаваныя на зваротках («папеўках») вышэй названых расьпеваў. У 19-ым стагодзьдзі паўстаў **прынцып збліжэньня старых расьпеваў з народнай песеннай творчасьцяй** (пачаты Рымскім-Корсакавам і найбольш выразна сфармуляваны ў тэорыі й разьвязаны ў практыцы А. Кастальскім), што ўважаецца найбольш адпаведным і дагэтуль.

Няма ніякага сумлеву ў тым, што на Беларусі йснавалі свае нацыянальныя расьпевы царкоўных тэкстаў, свае складальнікі-творцы, аднак дасьледная праца ў гэтай галіне амаль што зусім адсутнічала.

Як сьветка нотнага старадаўнага крукавога пяяньня на Беларусі выступае гімнавы напеў няведамага аўтара (прыблізна канец сярэднявечча), які зьмешчаны ў кнізе Апанаса Берасьцейскага (Піліповіча) пад назовам «Дыарыюш» (1645 г.) Гэты нотны запіс апублікаваны ў «Большай Советской Энциклопедии». т. 4, 1950.

Дзякуючы стараньням сп. А. Каханоўскага, мы маем цяпер крыху расчыненыя дзьверы у бібліяграфічную справу старых царкоўна-нотных беларускіх выданьняў. Гэтак, нотныя знакі й напевы паданыя: а) у Супрасьльскім Зборніку (канец X і пачатак XI стг.), б) у Ірмалогу XVI стг., в) у «Ірмалогіі» 1662 г. у Віцебску, г) у Ірмалогу XVII стг. Віцебскага Маркавага манастыра, д) у «Актоіху» XIV стг. Менскае Петрапаўлаўскае царквы, е) «Осмогласніку» 1582 г. з) у Ірмалогу — друк 1642 у Еўі ды ў некаторых іншых выданьнях.

Цяжкасьць тут вялікая і ў тым, што гэтыя выданьні для нас маладаступныя. Ёсьць толькі надзея, што частку зь іх яшчэ можна адшукаць у найбольшых бібліятэках сьвету (Нью Ёрк, Лёндан Парыж). Тут шляхотная й пачэсная справа для нашых аматараў старыны на эміграцыі, а такія ў нас, дзякуй Богу, яшчэ ёсьць.

**Пытаньне рэформы беларускага царкоўнага пяяньня,** на маю думку, складаецца зь дзьвюх частак:

1) **Набыцьцё, стварэньне, распаўсюджаньне й ужываньне нацыянальных царкоўных кампазыцыяў;**

2) **Складаньне, утварэньне й зацьверджаньне беларускага царкоўнага васьміголосьніка-Абіходу.**

Першая частка справы, здаецца мне, найбольш лёгкая дзеля практычнага выкананьня, навет і ў нашых эміграцыйных умовах. Я разьбіў-бы яе, у сваю чаргу, на два падразьдзелы: а) народнай творчасьці і б) арыгінальных кампазыцыяў. Ужо даўнай традыцыяй увайшлі ў царкву, скажам, выкананьне калядак у часе багаслужбаў на сьвята Раства Хрыстовага, што робіцца або замест запрычаснага вершу, або на заканчэньне службы. Мяркую, што з дазволу царкоўнага кіраўніцтва, нам трэба павялічыць і пашырыць гэтую практыку выкарыстаньня народных беларускіх сьпеваў на рэлігійную тэматыку ў царкоўным пяяньні. Тут ёсьць ня толькі вялікая колькасьць калядак-батлеек. але й вялікодных валачобных песьняў (з цудоўным прыпевам: «Хрыстос Васкрос Сын-Божы»), беларускіх духоўных вершаў (прыкладам «Галубіная кніга», «Аляхсахві-царэвіч», «У доме Давыдавым» і інш.), з рэпэртуару старых лернікаў, рэлігійных народных песьняў на маральна-узгадавальныя тэмы. Нам трэба адшукаць тут і матар'ялы **беларускіх багагласьнікаў.** Сп. Каханоўскі падае нам аб захаваньні, прыкладам, рукапіснага Богагласьніка 1662 г. Полацкага Багаяўленскага манастыра. Жыровіцкага рукапіснага Богагласьніка XVII стг.

Што тычыцца песьняпяяньняў Багаслужбы, дык тут трэба, ясна. у васнову пакласьці творы перш за ўсё ведамых беларускіх аўтараў, а таксама заахвочваць новых, у першую чаргу нашых царкоўных рэгентаў. Не магу не зацеміць тут, што беларускія аўтары мусяць палічыць сваім абавязкам пакласьці і ў свае арыгінальныя творы беларускія нацыянальныя матывы. Наагул пранікненьня народна-песенных струменьняў у царкоўную музыку баяцца ня трэба. Навет, самая бізантыйская царкоўная музыка ў сваёй гісторыі мела не малыя ўплывы славянскіх і каўкаскіх народаў. Калі царква сама выяўляла дабрадзейны ўплыў на народную творчасьць, дык і апошняя надавала царкоўнай музыцы сьвежае й прыгожае дыханьне. На маю думку прынцып узаемаўзьдзеяньня тут найбольш правільны й відавочны.

Арыентацыя царкоўных аўтараў — рэч вельмі важная для нацыянальнай справы. І тут хочацца падаць адзін прыклад з нашага эміграцыйнага жыцьця. У Лёндане зарганізавалася адна інстытуцыя, якая зацікавілася царкоўнай беларускай музыкай усходняга абраду. Такая інстытуцыя, зразумела, патрабуе толькі самай гарачай увагі й падтрымкі. Але арыентацыя яе на царкоўныя напевы Пачаеўскага Ірмалога — гэта, на маю думку, няправільна. Пачаеўскі Ірмалог — вельмі салідная, паважная й высокамастацкая праца, але для беларускай царкоўнай музыкі — гэта пабочны, не асноўны і зусім не галоўны шлях. І ў гэтым сэньсе для нас куды важнейшыя й больш падыходныя Супрасьльскі Зборнік, Віцебскі Ірмалог, Віленскі Актоіх, Жыровіцкі Богагласьнік і іншыя беларускія нацыянальныя матар'ялы, якія й павінны стацца глебай для творчых пошукаў.

Хачу тут яшчэ падчыркнуць, што ў сваім невялікім артыкуле ў «Бацькаўшчыне» я закрануў толькі частку пытаньня, якую лічыў найбольш лёгкай і магчымай да ажыцьцяўленьня.

Найцяжэйшая частка справы — утварэньне **Беларускага Абіходу-Васьміголосьніка.** Звычайна, расьпяяць царкоўны тэкст можна парознаму, навет, і на матар'яле з народна-песеннай асновай. Аднак ня трэба забывацца пра тое, што праваслаўны абіход складаўся, як **сыстэматычны выгляд** («свод») цэлага кола напеваў васьміголосься, што ў яго была гістарычная база найбольш старадаўных і найбольш моцных расьпеваў. Аднаму аўтару разьвязаць гэтую праблему немагчыма, тым больш, што гістарычная падстава старавечных беларускіх царкоўных пабудаваньняў — традыцыя для нас пакуль-што амаль зусім незнаёмая. Толькі набыцьцё й авалоданьне гістарычнымі матар'ямі, спалучэньне іх з народнай песеннай творчасьцяй можа даць тут салідны, паважны, моцны й правільны вынік. Дарэчы тут сказаць, што якраз таму я й не наважыўся дагэтуль публікаваць складзеныя мною абіходныя напевы, чакаючы на ўдасканаленьне іх расьпевамі зь беларускіх царкоўных Ірмалогаў і іншых беларускіх крыніцаў. З гэтай часткай справы рэформы беларускай царкоўнай музыкі мы будзем мець яшчэ шмат руплівай і настойлівай працы. Творчае імкненьне тут немагчымае без дасьледваньня.

Пытаньне беларускае Багаслужбы не магло ня ўзьняць думак аб перакладах із славянскай мовы на больш зразумелую — беларускую. Я, асабіста, не спэцыялісты у гэтым. Думаю, аднак, што прынцыпова гэтае пытаньне зусім законнае й сваечасовае, яно ўжо пазытыўна разьвязанае іншымі народамі. Аднак і тут хочацца падаць адзін паказальны прыклад. Я ведаю аднаго такога «перакладчыка», які мэтадам «айн-цвай-драй» пераклаў у беларускую мову Літургію сьв. Іоана Златауста, пры чым добра славянскай мовы ён сам ня ведаў . . . Лепш ня буду спыняцца на гэтым перакладзе. А тут і сваёй беларускай мовай трэба валодаць так, каб яна ператварылася ў вельмі чулы, элястычны, выразны й паслухмяны інструмант, які-б мог перадаць усе нюансы й адценьні вялікай прыгожай і красамоўнай Службы. Мала таго — перакладчык мусіць ведаць законы сьпеву, перакладаць так, каб і ў сваёй мове можна было выконваць славянскую малітву, пяяць яе на тыя-ж традыцыйныя царкоўныя матывы, інакш кажучы — захаваць у перакладзе тую-ж колькасьць складоў, тыя-ж націскі, памеры, ужо не гаворачы аб поўным захаваньні й правільным тлумачэньні зьместу. На маю думку, да перакладаў царкоўна-славянскіх тэкстаў трэба прыцягнуць нашых лепшых пісьменьнікаў і паэтаў — і ня толькі іх, але й знаўцаў тэксту, моваведаў, кампазытараў, крытыкаў і, зразумела, духоўных асобаў. Справу трэба ставіць высока, паважна й чула, як гэтага вымагае сьвятая Багаслужба.

Яшчэ адна вельмі важная справа, аб чым мы часам забываемся або й зусім ня думаем. Як рэформа царкоўнага пяяньня, так і пераклад Багаслужбы ў беларускую мову — справа ня толькі сьвецкая, а ў першую чаргу духоўная. Усе дзеяньні й захады тут толькі тады магчымыя, калі яны прызнаныя Царквою (у гэтым выпадку БАПЦ). калі робяцца яны з багаслаўленьня гіерархаў. З нашага боку ідуць прапановы, пошукі, дапамога, але кіраўніцтва мусіць належаць Сьвяшчэннаму Сыноду.

Я аднак пэўны, што Беларускі Сьвяшчэнны Сынод больш за ўсіх зацікаўлены ў пытаньнях рэформаў. Хочацца толькі пажадаць, каб дзеля шырокага й правільнага разьвязаньня іх царкоўнае кіраўніцтва запрасіла як найбольш сьведамых беларускіх дзейнікаў і склала высокааўтарытэтныя камісіі пад сваім кіраўніцтвам, якія-б неадкладна пачалі-б распрацоўку такіх насьпелых і важных справаў.

Чаму-б ня склікаць сходу кампэтэнтных асобаў з розных месцаў пры Беларускім Царкоўным Цэнтры, каб на ім падзяліцца думкамі ды выслухаць меркаваньні нашых гіерархаў?

**Мікола Кулікавіч**

# „Абаронцы“

Ўсяму сьвету й не ад сяньня ведама, што Расейцы, паводля іх уласнага ўяўленьня, зьяўляюцца абаронцамі пакрыўджаных, перасьледваных, прыгнечаных і г. д. Гісторыя й жыцьцё, — цьвердзяць нешта зусім адваротнае, для прыкладу ўзяць хоць-бы былую царскую й сяньняшнюю чырвоную імпэрыю, — сьвет гэта бачыць, але маўчыць. А таму, «што маўчаньне ёсьць знакам згоды», яны (Расейцы) стараюцца ператварыць гэтую згоду ў пераканаьне.

У сувязі з выпадкамі адраджэньня антысэмітызму, якія ў апошніх часох мелі месца ў пэўных краінах Эўропы й Амэрыкі, нью-ёрскае «Новое Русское Слово» зьмясьціла цэлы рад «дакумантаў» аб тым як у страшныя гітлероўскія часы абаронцамі Жыдоў ды іншых прыгнечаных народаў, быў ня хто іншы як ўласаўцы!? — Гэта яны моў, а ня хто іншы, вызвалілі ад эсэсаўцаў Прагу, а вызвалілі яе толькі дзеля таго каб ўратаваць **прызначаных на зьнішчэньне** праскіх Жыдоў і дапамагчы чэскім паўстанцам. Аб гэтым «вызваленьні» ўжо пісалі Завалішын, Зіссман, Архіпаў і Штатаў, у №№ з 16. 12. 59 г. і 24. 1., 11. 2., 12. 2. 60 г. Цяпер-жа ў № з 28. 2. 60 г. А. Бэрвік і Б. Нарцыссаў заклікаюць усіх хто мае якіясь дадзеныя аб «асвабадзіцельнай» дзейнасьці ўласаўцаў, падаваць іх на пэўны адрыс, дзеля выданьня адумысловага зборніка, які-б дакладна асьветліў гэтую дзейнасьць.

Таму, што лёс судзіў і мне сутыкацца з ўласаўцамі ў гэтыя страшныя часы, я хацеў-бы падзяліцца з чытачамі ўспамінамі, якія вельмі цяжка выкінуць з памяці.

✳

1943 год. У мястэчку Лужкі, Дзісьненскага павету залажыў сваю штаб-кватэру палкоўнік Радзіонаў, які распачынаў фармаваць РОА з былых ваеннапалонных чырвонае арміі. Праўда ягоныя аддзелы тады яшчэ не называліся РОА, а толькі на нямецкіх уніформах насілі адзнакі «за Русь» і нямецкім камандаваньнем былі прызначаныя да змаганьня із сталінскай партызанкай. Гэтае «змаганьне» выражалася ў рэгулярных рэйдах у ваколіцы мястэчка, але ў вакрузе не далей 10-15 км., бо далей існавала партызанская небясьпека. Мэтай гэтых рэйдаў быў у першую чаргу рабунак ваколічных сялянаў. Нярэдка здараліся забойствы й гвалтаваньні жанчынаў і дзяўчат. З гэтых рэйдаў «пераможцы» вярталіся зь вялікай помпай, пад гукі аркестры, гарматныя салюты, а часамі й пад звон званоў, г. зн. з усімі атрыбутамі расейскае велічы. Вярталіся амаль

(Заканчэньне на 7-ай бачыне)

# Справа Савіча

(Заканчэньне з 2-ой бач.)

**мейсца «перадавому» расейскаму народу!?** Народжаным поўзаць не дана зразумець, што перадавыя людзі XIX стагодзьдзя, у тым ліку і наш суродзіч Савіч зы сваімі таварышамі, змагаліся і **ішлі на пакуты і на шыбеніцы не за такую волю і роўнасьць, дзе пануе «старэйшы брат».** Яны змагаліся і імкнуліся аб'яднацца не для таго, каб заставацца ў турме, а каб разбурыць яе раз назаўсёды і **ўваскрасіць запраўдную волю.**

Наапошку хочацца зазначыць: зусім ня дзіва, што савецкая прапаганда знаходзіцца ў тупіку і патрэбны спэцыяльныя пастановы прэзыдыюму КПСС, каб яе ажывіць. Топнучы за брытву хапаецца! Але, дарэмныя патугі. Цяпер у СССР **пасьпеў час не ажыўляць ману і хвальшаваньне,** а, **наадварот, шукаць спосабу змаганьня зь ёю, бо справа зайшла вельмі далёка.** Гэта адзначыў яшчэ ў дваццятых гадох К. Каўцкі ў сваёй працы **«Бальшавізм у тупіку»** і прывёў анэкдот, у якім апавядаецца, як адзін савецкі чын пачаў выхваляцца за мяжой. — «О, у нас пчолы! Па вераб'ю. І мёду, колькі хочаш.» «А вульлё якое?» — запыталіся. «Вульлё? Ды звычайнае.» «А як пчолы пранікаюць у яго?» «Пчолы? А чаго-ж. Ім прыказана і пранікаюць.»

**М. Самасевіч**

на вольныя праявы вечнае няўміручасьці й красы прыроды-маці. І варта было летняму дажджу змыць напластаваньні пылу, як адразу-ж вяршаліны ўтаймаваных дрэўцаў і травяны кілім унізе пачыналі іграць усімі колерамі зялёнае радугі. Тады званчэй пачыналі выяўляць сваю радасьць і кагорты пёрыстых жыхароў гэтых зялёных сховішчаў. Навыперадкі заліваліся ў скоках пярэстыя „роўбіны", сьвіргаталі блакітныя сойкі, жвавей спаборнічалі ў змаганьні за кавалак верабейчыкі, ганарліва буркацелі памяркоўныя галубкі каля чалавечых ног на невялікай адлегласьці.

У згадках пра такое ажыўленьне і ў дзівосным зьдзіўленьні перад непераможным ходам жыцьця навет тут, на гэтак сьціпла вылучанай для жывое прыроды дзялянцы, Пётра раптам падняў голаў і прыпаў зрокам да іншага дзіва. На ружаватым фоне чыстага неба уздоўж Рывэр Сайд Драйву нявысока над дахамі камянічных гмахаў з поўначы ляцела аграмадністая чарада маленькіх, як чорныя кропкі ў блакіце, птушак. Яны бясконцай чарадой плаўна праплывалі над залітымі чырваньню камінамі й вострымі, нібыта драцянымі, пікамі антэнаў, хуценька й рытмічна варушачы крыльлямі, а час-па-часе й нырцуючы імкліва на іх, як на нярухомых ветразях, павольна зьнікалі ў далёкай празрыстасьці за бівакам 125-й вуліцы. Іхняму лёту ня было канца. Калі здавалася ўжо зьнікала з вачэй вялікая чарада, і за ёю адно толькі адзінотныя, адбітыя ад асяродзьдзя птушачкі і стараліся нагнаць сваіх, раптам за высокімі дахамі зьяўлялася новая бясконца даўгая чарада, і зноў неба было скрозь укрытае чорнымі рухавымі пунктамі, сьціраванымі да тае-ж звабліваe грады зялезных рэклямных кратаў, шчо здалёку цэлай гарою ўзьнятых у неба электрычных латаў узвышаліся над мастом таго-ж бівака. Калі апошнія чародкі ледзь праміналі могілкі на 153 вуліцы, дык першыя, што кагадзе праплылі гэтым шляхам, ужо далёка на поўдзень вялізарнымі зграмаджаньнямі вылятaлі на шырокую прастору над сярэдзінай Гадзана і там выраблялі дзівосныя лёты. Над ружова-пераліўнай, нібыта ў водблесках волатнага пажару, роўнядзяй шырокае рачное прасторы птушкі зьбіваліся высака ў вялізарную хмару і часінкамі, як перад навальніцаю, засьцілі сабою вечаровае нізкае сонца. Узьлятаючы на вышыню нябачных хмарынах роўнаю фігурнаю масай, яны раптам сьціскаліся пасярэдзіне, набывалі знадворныя абрысы васьмёркі, затым расплываліся ў роўнае шырокае кола. Пасьля таго, як выцягваліся даўгою трапэцыяй, яны раптам сьціскаліся гэтак шчыльна, што здавалася паміж імі няма аніякае шчыліны, і кулём кідаліся ўніз. Магло на кароценькую часінку здацца, што гэта нейкі фантастычны каршун кідаецца стрымгалоў да вады, каб ухапіць абраную ім ахвяру. Але не! Пакружыўшы над адным мейсцам зграмаджана, птушыная чарада зноў узьвівалася ўгору, павольна радзела, асобныя птушкі адрываліся ад свайго асяродка. За які момант яны ўжо вольнымі выраблялі ўсё новыя й новыя цудоўныя фігуры, паступова адляталі, каб даць мейсца новым чародам, што з тога-ж паўночнага прыгараду бадай-што да зьмярканьня налятaлі па чарзе да мейсца свайго начлега. Кажная новая партыя прарабляла тую-ж фігурна-лётную гімнастыку над Гадзанавымі водамі і ў сваю чаргу ськіроўвалася на тыя-ж вынесеныя ўвысь краты, дзе ўжо сьвіргаталі тысячы іхніх пабрацімаў.

Пётра зачараваным зрокам цікаваў птушынае мастацтва й ня мог ніяк утаймавацца ад зьдзіўленьня, што вось якая малесенькая птушачка, а як яна добра ведае сваю грамаду й як кажнае птушанё суладна знаходзіць у ім сабе мейсца ды гарманічна дапаўняе агульную ўзгодненасьць кажнага руху. «І які гэта інстынкт вядзе іх штодня па тэй самай дарозе да гэтае начлежкі? — задаваў сам сабе пытаньні Пётра. — І гэта-ж штовечару, як тым адвечным шляхам, лятуць гэтыя шпакі з розных бакоў, з Нью-Джэрсі і абшараў за Нью-Ёркам, але кажны раз яны зьбіраюцца на могілках ў верхнім горадзе, каб ляцець гэты апошні кавалак шляху разам. Як на каманду, за сваімі вольна абранымі важакамі, яны абавязкава мусяць прайсьці прыгожым строем гэты абраны імі й ніколі не здраджаны да канца жыцьця шлях. А перад тым, як закончыць свой працоўны дзень, яны мусяць абавязкава ўсёй грамадою адбыць штовячорны рытуал мастацкага фігурнага лётаньня, каб пасьля із спакойным сэрцам і сьведамасьцяй адбытага абавязку адыйсьці на супачыаак. Але-ж тут, пэўна, не адзін абавязак. Мастацкі інстынкт змушае шукаць выйсьця, і яны знаходзяць яго ў задавальненьні перадвячорнага лётаньня ў найпрыгожшым мейсцы, калі ўся прастора над ракою аж зіхаціць у золаце вечаровага скону, а чыстае, як шкло, паветра гэтак і кліча ў свае нетры паспытаць сілу выносістых на ўзьвей крыльляў, калі ў маладым целе пад пёркам не адчуваецца ніякае вагі, і яно само, нібыта падхоплены ветрам пушок, лунае ў высачыні лёгкай зданьню».

«Адылі, хоць ты, чалавеча і ня маеш крыльляў, таксама ходзіш па зямлі наканаванымі табе звышыні адвечнымі шляхамі. І хаця-ж часам лёс і заносіць цябе далёка ад бацькаўскага дому, усё-ж душа твая вечна неспакойная й шукае звароту на тыя-ж бацькаўскія сьцежкі, яна сумуе на чужыне па родных загонах, марнее й смыліць думкамі аб тым, што лёс пазбавіў нас дарогі да роднае хаты. І як-бы добра табе і ня было тут, адно гняце сьведамасьць, што ты тут толькі ў гасьцёх, хай сабе й гасьцінных і ветлівых, але ўсё-ж у чужой хаце. І колькі-б ты ні прывыкаў да новае айчыны, а ў снох цябе будзе неадступна перасьледваць абраз роднае хаты, дзе ты ўпяршыню ў жыцьці пазнаў смак іржаного хлеба на кляновым лісьці ды нагбом першы раз напіўся цёплага сырадою».

І Пётра пачаў згадваць, як яго ўжо каторае дзесяцігодзьдзе ўначы мучае й зваблівае адзін і той-жа абраз даўно ўжо няіснуючай, згарэлай у вайну хаткі ў Менску. Кажны раз, як засьне, ён бачыць сябе усё ў той-жа гасподзе на ўскраіне гораду, маці над ім сьпявае калыханку, а бацька падоўгу глядзіць у ягоныя вочы й чытае ў іх нявычэрпны сум па страчанай сьцежцы, што магла-б прывесьці да шчасьця, а прывяла да нядолі. І хаця-ж Пётра часам у сьне сам сябе ловіць на сьведамасьці таго, што і бацька ўжо даўно нябожчык, памёр яшчэ ў вайну ў тым-жа Менску, і маці ўжо няма жывой, бо яшчэ ў Мюнхэне сам пахаваў, адылі кажны раз з усё новай горычай тыя-ж вобразы памёрлых родзічаў і сваякоў неадступна трывожаць далёкімі зданямі й напаўняюць болем за незваротнае.

# Літаратурны Дадатак

*Рыгор Крушына*

## З кнігі „Вячорная лірыка“

* * *

Іду ў твой сьвет — у цьвет вясны,
Іду сьпяваць, маліцца.
Хай казка роднай стараны
Жыве ў тваёй сьвятліцы.

Хай паўстае стары абраз
Далёкай ціхай вёскі,
Дзе я адчуў, пазнаў ня раз
І сум, і шчасьця ўплёскі.

Быў на кані і пад канём,
І лёс таптаў капытам.
А я і сяньня зь ясным днём
Стаю перад выпытам.

Сябе ў архіў яшчэ ня здаў,
І часта мрою нашча.
Ты — птушка зьбітая зь гнязда,
Цябе я з жалем лашчу.

І мне здаецца, мы з табой
Праз ноч на конях скачам.
У наш зацемнены пакой
Прыходзіць радасьць з плачам.

* * *

Бачу цябе я ў сваім падарожжы,
Зноў засыпаю пад новым уражаньнем.
Мілая ў соснах, ялінах прыгожых,
Навет на ўзьлеску пасечаным, спляжаным.

Ты й на руінах, дзе шмат перажыта,
Макам цьвіцеш каля сьценаў аблупленых.
Выбегла хвалямі сьпелага жыта,
Вохным чаборам на сонечных купінах.

Бачу цябе я ў спакойных вазёрах,
Бачу і там, дзе густая алешына,
Дзесьці ля дому, ў садку і ў вузорах
Шматаў хусьця, што на плоце разьвешана.

Ты ў маіх вершах, як сонца у люстры, —
Не адыйшлася апошняю згубаю.
Еду на захад. І вечар — насустрач.
І пад імглой усьміхаецца любая.

Хуткі цягнік рэжа суцем з разгону.
Зоры на чорныя шыбы нізрынуты.
Чуецца ў грукаце колаў вагону
Гутарка роднай, сынамі пакінутай.

* * *

На сьцяне сацьмела фота,
Мілы твар ахутаў змрок.
Толькі ўсьмешка, як самота
Засталася назнарок.

Таямніча выглядае
Тая ўсьмешка з вуснаў, воч...
Не сказала маладая,
А ў сабе схавала ноч.

Можа дробныя пачуцьці
Той час дужымі былі,
Ды цьвілі ў людзкой пакуце
Усімі краскамі зямлі...

Гэта-ж сяньня выступае
З даўніны паўдзённы шлях,
Па якім прайшла сьляпая
Наша радасьць без разваг,

Наша дзікая ахвота
Лашчыць сонца на траве...
На сьцяне сацьмела фота.
А усьмешка ў ім жыве.

Мне даруй, што я часам цяжкім
Захлынаўся у песеннай бразе.
Ахмяляўся я словам, якім
Не пакрыўдзіў цябе, не абразіў.

Уначы прачынаўся ня раз.
Чуў — зьвініць слова роднага краю.
Мройны вобраз у далечы згас
І цяпер я нястомна шукаю.

Хай было — перабраў, недабраў...
Можа ўсяк неспакойнаму стацца.
Дзеля шчасьця твайго і дабра
Я сьпяваю ў сьвятыні мастацтва.

* * *

Я малюся, каб слова маё
Ня было між тупых і ў загане.
А каб мела яно гастрыё
І ўшчапляла ў народзе каханьне.

Каб сьмяяцца і плакаць маглі
І, як дзеці, наўскрык захапляцца,
Каб паважна на нашай зямлі
Шанавалася творчая праца.

* * *

Крылатых ценяў рух няспынны,
Агеньчык сьціплы каганца.
Мне не забыцца тэй хвіліны,
Таго пачатку і канца.

Яна сядзела на услоне.
Гуло чмялём верацяно.
Тут шчасьце ў кужалю кароне,
І ніткай цягнецца яно.

Верацяно пяе зь пяшчотай,
Пра што — сказаць я не магу.
Ды толькі часам нітка ўпотай
Мяне чапляе за нагу.

Яна сьмяецца, нітка рвецца,
Касмыль кудзелі б'е мне ў твар.
Суседзі цешацца: — На сьвеце
Ёсьць непрададзены тавар.

На жаль, прыйшлі сваты чужыя
І на тавар далі купца.
Упалі цені крыжавыя
І згас агеньчык каганца.

Мая папрадуха ў загоне,
І не пяе верацяно
Старая прасьніца на ўслоне
Ляжыць забытая даўно...

* * *

Пачуваюся зморанаым
У самоце дурной.
Смутак кружыцца воранам —
Груганом нада мной.

А прыйшла — цешыць, радуе.
І здаецца ў той час —
Нашым шчасьцем праз радыё
Захапляецца джаз.

Мне суцеха прыязнае
Засьпявае цяпер.
Вось мой гальштук разьвязвае,
Расьхінае каўнер.

Будзе лепш... Рассупонены
Гэты цесны хамут.
Зноў каханьня запоіны
Пачынаюцца тут.

Сіла хмеліцца сьвежая.
Гіне змора, тане.
Мілай цалкам належу я,
А яна толькі мне.

Нашым шчасьцем праз радыё
Захапляецца джаз.
Нас ніякаю здрадаю
Не спалохае час.

* * *

Вясёламу зборышчу донна,
Вітаючы, кідае ружы.
Гітара заходзіцца звонам,
Танцорка ў гарачым ускружжы.

Як ветразь шугае спадніца,
Карункі зьбягаюцца пенай.
Здаецца, што лодка імчыцца
Імкліва пад бурай страшэннай.

А вочы, як зорачкі ночы,
Іх чорная золь не згасіла.
Яны зь цяплынёю жаночай,
Той позірк — таемная сіла.

Вясновыя чары дзяўчыны!
Пачуцьцяў расьце навальніца.
Мне хочацца з гэтай прычыны
За мачты, за рукі ўчапіцца.

І гойдацца з лодкай на хвалі,
Прызнацца прыгожай Гішпанцы:
Мы зь ёй маладосьць захавалі,
Мы жарсьць замыкаем у танцы.

* * *

Капцюрыць ахвяру каршун...
Кахае яна Дон Кіхота.
Аморавы крык увушшу,
Прадоньне ўвачч у і сьпякота.

Аблічча ў цудоўным сьвятле...
Зь вянком маладая сустрэне
Героя свайго. А далей —
Раздражнены бык на арэне.

Зьвярынная пожадзь, ізноў
Зьявіся, каб нэрвы трымцелі.
Ад пешчаў — аж кроплямі кроў
На здрапаным, зморанаым целе.

І ўся ў захапленьні яна.
Вікторыя ў прагных намерах.
Ці ейная ў гэтым віна,
Што радасьць ідзе ад тарэра.

* * *

На ўзьбярэжжы, дзе месца глухое,
Дзе, як кажуць, ніводнай душы —
Мы спакойна ляжалі абое.
Вецер вільгаць на целах сушыў.

Мора штосьці аб райскай старонцы
Мармытала, як бабка ў сяле..
Ах, як добра нам грэцца на сонцы!
Гэта нашая радасьць, але...

Толькі тут не бязьлюдзьдзе Палесься,
З морскіх скалаў хто-небудзь зірне!..
Павярнулася ты і сьмяешся,
І спакусай ляжыш на сьпіне.

А купальнік скамечаны збоку
Нахіліўся кустом над табой,
Каб ня бачыла блізкае вока
Ўсяго скарбу красы маладой.

---

«Так, таго, што вузлом было завязана ад нараджэньня, ня выганеш ніякімі сродкамі, і навет усемагутны лекар — час — ня ў стане выпетрыць з душы таго, што лягло на ёй з-пад матчынай ласкі. Яно будзе жыць чарамі маленства ўва ўсіх таемных спомінах і заўсёды спакушаць прывідамі далёкага незваротнага раю,» — думаў далей Пётра, неяк нясьведама і безразважна крочачы цяпер у тым-жа кірунку, куды яшчэ ляцелі асобныя запозьненыя чародкі шпакоў у небе.

«Праўду казаў той Скарына, — прыгадваў Пётра, — што зьвяры ў пустыні недаюць ямы свае, рыбы ў моры і ў рэчках чуюць віры свае, пчолы бароняць вульлі свае, а людзі вялікую любоў выказваюць да мейсца, дзе нарадзіліся і паводля Божае ласкі былі ўзгадаваныя... Вось і тут, у Амэрыцы ўсе мы, выгнанцы, знайшлі сабе новую бацькаўшчыну, за ейную магутнаю сьпіною мы пачуваем сябе, як у Бога запазухай. А сэрца ўсё жыве і мусіць доўга будзе яшчэ жыць пакінутым кутком.

І на вуліцы пад грукат, пад гоман,
Дзе натоўп закруціўся рухавы,
Нам маячыцца вёсачка, Нёман
І агні партавыя Лібавы.

Калі Пётра набліжаўся да маста, сонца ўжо бадай цалкам апусьцілася за Нью-Джэрскія ўзвышшы. Густая чырвань на захадзе пацямнела, а ружовасьць над галавой усё больш адыходзіла на захад перад наступам згушчанае сінявы. Асобныя дрыготныя зоркі ўжо выразьней выступалі і дзівіліся на мора гарадзкіх агнёў з блакітнае стыні.

Пётравы параўноўваньні чалавечага лёсу з адвечнымі птушынымі шляхамі раптам перапыніліся галасам, што выходзіў з высокіх газавых вышак па адзін бок віядукта і высачэзных зялезных умацаваньняў з рэклямовымі шыльдамі па правы бок ад яго.

На даўгіх бэльках прытулася колькі тысячаў чарнява-рудых, памерам крыху большых за вераб'я, птушак. І ўсе, як па змове, на розныя лады заліваліся разнатайнымі гукамі птушынай калыханкі. У Пётравым вушшу ўся гэтая рознагалосіца здалёку зьлівалася ў вагульную птушыную сымфонію й тварыла пэўны чар дзіўное й нязвычайнае музыкі. Калі-ж адлегласьць паміж ім і птушыным хорам памяншалася, Пётра пачаў вырозьніваць асобныя галасы. Кажны зь іх ня быў цалкам падобным на іншы. Ён нёс у сабе нешта адменнае й часта вельмі-ж ужо знаёмае.

Апынуўшыся побач малых сьпевакоў, Пётра доўга прыслухоўваўся да галасоў асобных шпакоў. І тут ён раптам адкрыў, што бальшыня шпакоў сьпявае нібыта ні сваім, а пераймавым у іншых птушак голасам. І запраўды, ствралася ўражаньне, што ўсе яны насьлядуюць сьпевам многіх іншых птушак. Тут мэлядычны посьвіст мяшаўся з гучным шчэбетам. Час ад часу, чулая патрэскваньне дзюбкаю, барабанны гукавы шрот раптам зьмяняўся гукамі нібыта працуючых машынаў і шоргатам мэханічных станкў А затым у паветра вылівалася цэлая гама шматгалосных птушыных сьпеваў. У ім былі чутны й заліваньні чарадзея-салавейкі, летні ў высокіх нябёсах званочак жаўрука, цягучае высокае ціліканьне сойкі, сумна-маркотнае пяяньне ў глыбіні цёмнага лесу зязюлі і цьвіркаценьне даходлівых вырабейчыкаў. Затым гэтая пярэстая мілагучнасьць выціскалася раптам дзіўнымі шумамі. У іх ужо дасьціпнае вуха магло ўлавіць адно кухонныя шумы вялікага камунальнага дому. У птушыным галасе чуліся шыпеньні гарачых патэльняў, у якіх нібыта смажыліся з патрэскваньнем горы яешні, або быццам гарачая пара адразу выпушчалася з колькіх паравозаў у нейкім казачным дэпо. Аднак, калі чалавек пільна ўглядаўся ў асобных шпакоў-пяюноў, ён паступова й тады мог вылавіць асобныя галасы, якія зноў-такі выяўлялі ў іхніх гаспадароў выдатныя здольнасьці да гукавога перайманьня.

Дарма, што Пётра ўжо аж перагінаўся праз поручні віядуктнага маста, зьвісаючы сваёю верхняю паловаю над далёкім унізе каменным долам рухавае ў сваім дзённым і начным тумале вуліцы, скуль штораз чуліся аўтамабільныя сырэны й енкі раптоўна тармажаных машынаў, аднак птушкі чуліся як у хаце й не давалі ніякае ўвагі на людзей й рух каля іх. Бліжэйшыя ад Пётры шпакі былі ўжо магчыма на адлегласьці дотыку выцягнутае ўдожкі рукі. Але пёрыстыя артыстыя не выяўлялі ніякае турботы ды ўсё паранейшаму таксама галасна й натхненна аддаваліся цалкам свайму мастацтву. Уся вячорная прастора наўкола поўнілася гэтым сугалосьсем і зьвінела наводдалі рэхам калыханага ў вячорняй стыні шпаковага гімну. Ён на ўсю сілу доўга яшчэ аж да позьнае пары ня сьціхаў і чараваў закаханае ў красу жывога сьвету Пётрава вуха.

І пакуль зусім на сьціхлі на ночны пакой Пётравы пацяшальнікі, ён дўга спацыраваў уздоўж ходнікаў па мосьце. Нарэшце, калі ўсіх крылатых ахінула глыбокая ноч і апошняе рэха затонула ў гульлівым шматзвонным гарадзкім рокаце, Пётра падаўся тэй-жа дарогаю бліжэй да сваёй хаты. Ён яшчэ ніяк не адыйшоў быў ад узрушаньня пачутым і пабачаным, як з задумнага стану яго вывеў вокрык знаёмага па дому, Хвядоса Гадкоўскага. Той якраз вяртаўся з вечаровага 'овэртайму'. Пабачыўшы Пётру Абуховіча, ён узрадаваўся магчымасьці перакінуцца з кімсьці словам. За даўгі працоўны дзень каля варштату ды маўклівыя гадзіны пасьлязьменнае, звыш звычайных васьмі гадзінаў, тупое фізычнае працы, ён сумаваў па чалавечай гаворцы. У пагоні за даўгім далярам, ён стала пазбаўляў сябе магчымасьці пабыць з людзьмі ды памяньціць языкам, да чаго ён меў асаблівы поцяг. І ні тое, каб яго цікавілі самі людзі, а хутчэй патрэба даць працу свайму вяртляваму языку, што канечна патрабаваў практыкаваньняў і штодзённага ўжытку, змушаў яго шукаць сустрэчаў із знаёмымі ў тыя лічаныя хвіліны вольнага часу паміж заўсёднымі клопатамі ды цяжкою працаю за даляр.

Пётра нечакана здрыгануўся й мусіў воляй-няволяй павітацца з гэтым настырлівым суседам. А той адразу, недачакаўшыся адказнага прывітаньня з Пётравага боку, яшчэ на адлегласьці замяньціў, як млынаровым колам, сваю заўсёдную у докар Пётру, гаворку.

— Дык, Васпан, усё паранейшаму зоркі лічыце ў небе? Усё ловіце ў тэй сіняй каламуце нязлоўленую сініцу? Ну дык што, і сяньня пэўна-ж Вашэця ад тых пошукаў у кішэні адно су-

*
*　　*

Сяньня атам і тэхніка ў модзе,
І палітык дае дырэктывы:
Пець рамансы, вясьнянкі ўжо годзе,
Адкідайце старыя матывы.

У бэтон будзе край наш адзеты,
Захапляйцеся шахтай і домнай . . .
І прыходзяць пустыя паэты
З поснай песьняй і славай скаромнай.

Не шкадуе ім крытыка тлушчу
Ды глянцуе карузлыя творы.
. . . Пахавалі пяшчоту і пушчу,
Бога шчасьця, палі і прасторы.

*
*　　*

Залаты адвячорак купаецца ў моры.
Хвалі шумнай гульлівай вады
Падымаюць мяне, вызваляюць ад зморы;
Адчуваю — я зноў малады.

Я ня буду сядзець пад крылом парасона,
Любавацца загарам чужых.
Сам на беразе смажаны сьпекаю соннай
Сяньня права плыўца заслужыў.

Мне пясчынкі пяшчотна пяюць аб аморы...
Вельмі проста — прастора мая!
Залаты адвячорак купаецца ў моры,
З адвячоркам купаюся я.

*
*　　*

З табою мы ў лесе з куста
Сарвалі апошнюю ягаду.
Малінавы куст узрастаў
Маўклівымі ценямі захаду.

— Апошні сулад красаваў, —
Пачулі мы голас аракула . . .
Старая сівая сава
Паблізу у поцемках плакала.

*
*　　*

Прыйшла неспадзяванкай,
Як мара, што нязьдзейсьненая,
Як маці, як каханка —
І чыстая, і песенная.

І ўся — краса духовая,
І пекната прыродная.
У жарсьці выбуховая,
Як бомба вадародная.

Я ў гэтым зьвязку — частка
Раздробленага атаму.
Я вычуваю часта:
Няма канца пачатаму.

Стаецца вечным слова,
Яно здаўна няўсьцішнае.
Старое гляне новым,
А новае — ня лішняе.

Прыйшла . . . У косах кветка.
І постаць — сад расквечаны.
Як ветрык цёплы ўлетку,
Усьмешка ветлай дзеўчыны.

Паэт, ты шчасьце маеш
Багатае і дзікае.
Жывы букет трымаеш
З бахматаю гвазьдзікаю.

*
*　　*

Нясі хутчэй у поўным шчасьці
Твой солад сонечны, твой мёд.
Мне давялося нізка ўпасьці
І прадчуваць высокі ўзьлёт.

І зразумець, што скрозь цудоўна,
Што разам з бацькаўшчынай ты
Ўвайшла ў жыцьцё маё раптоўна,
Як вобраз велічны, сьвяты.

Ты ўвайшла і села поруч
З маімі шчасьцем і бядой.
І асядае ў горле горыч . . .
Ёсьць песьня ў сіле маладой! . .

Тваё зубастае каханьне
Бярэ за сэрца і грызе.
Пакута страшная паўстане,
Яна ў пачуцьцях на чарзе.

Мой стогн агортваецца словам,
І людзі кажуць: верш, як звон.
І толькі сябрам некаторым
Здаецца — хворы я на скон.

Яны мне радзяць браць мікстуры,
Рэцэпты добрых дактароў.
А я інакшае натуры
Табой паранены — здароў.

І ня сьхілюся, не скаруся,
І не скажу: Цябе няма.
Цьвіцеш ты краскай Беларусі,
Мяне хвалюеш не здарма.

Бо, апрача тваёй, нідзе я
Любові прагнай не знайду . . .
А ёсьць яшчэ адна надзея —
Не замяце гадоў завея
Маю гарачую хаду.

*
*　　*

Вечар поўны паэзіі, слаўны такі,
Зь ціхім шэптам над любай і любым.
Ён сутоньнем змывае твае зморшчакі —
Ты стаіш, як даўней перад шлюбам.

Змрок чаруе, зьмяняе аблічча тваё,
Зьніклі смутак і ўсьмешка крывая.
Мы зацягнем з табой ня дуэт, а трыё —
З намі Нехта ўсім сьветам сьпявае.

Мы ня бачым Яго, адчуваем адно:
Ён між нас у любові і згодзе,
Узьнясе на вышыні, апусьціць на дно,
Ці прамовіць рашучае: годзе!

Чуеш, люба? Вячорныя звоняць званы,
Перад намі сьвятая капліца —
Сьвечкі-зоркі у небе . . . Міргаюць яны,
Клічуць нас спавядацца, маліцца.

Споведзь сэрца з малітвай пакутнай душы!
Вечар цепліцца, капае воскам
Ды гарачым, з агнём. Ты агню ня тушы, —
Дагарым у званох адгалоскам.

*
*　　*

Як цудоўна на сьвеце, прыгожа!
Божа! Воляй і сілай духовай
Ськівавана маё падарожжа
У жыцьцё
Пад тваёю аховай.

Праз агонь, катастрофы і страты,
І праз рогат рагатага ліха
Я прыйшоў, моцнай верай узьняты,
Думкі выказаць
Горача й ціха.

Хайжа словы мне сэрца трывожаць
І салодзяць у творчай пакуце.
Ёсьць імкненьні,
Хаценьні
І пождадзь,
І пачатак зганраньня пачуцьцяў.

Пад сьвятлом разьбягаюцца цені,
А ў істоце людзкой — таямніца.
Божа!
У тонкім, мастацкім сьпляценьні
Ёсьць такое, чаго і ня сьніцца.

. . . . . . . . . . . .

Чалавек безь сьвятыні — жывёла,
Без паэзіі пуста і мёртва,
Без любові —
Жыцьцё сумнаволае.
Хто бяз слова,
Той сьвет не разгортваў.

Слова — Бог.
Бог — любоў.
Бачу слова ў любові.
А любоў на зямлі
Разьвінаецца ў слове.

Мне гавораць аб гэтым
Сумленьне і розум.
Падуладны цяпер
Лятуценьням і крозам.

Я сьпяваю краіну,
Дзе рос, гадаваўся,
Дзе — хвала Табе, Божа, —
Я слову аддаўся,

Дзе кахаў,
Захапляўся,
Дужэў з Божай ласкі,
Рваў гаючыя травы
І любыя краскі.

Дзе на ціхай жалейцы
Іграла мне раньне,
Нявычэрпнай крыніцай
Бруіла каханьне

А праз тыя
Жывыя,
Людзкія пачуцьці
Голас Твой
Мне ў паэзіі, Госпадзе, чуцен.

**Рыгор Крушына**

## *Міхась Кавыль*

### ВЯСНА

Сарамліва і нясьмела,
Бы дзяўчына на спатканьне,
Па прасторах шэра-белых
Крочыць цёплае дыханьне.

Прамывае неба вочы,
Раськідае хмар падушкі.
Дробны дожджык стрэхі строчыць,
Ветры любяць гольле гушкаць.

Лес да сонца туліць сьпіну,
Доіць поле хмараў вымя.
Жураvы назад, да гнёздаў,
Бумэрангамі крывымі.

З кажным днём сьмялей, увішней
Сонца палкія уколы.
Што там? Сьнег прымёрз на вішнях?
Памыліўся-б, каб ня пчолы.

Бы гармонік на вясельлі,
Рэжуць першыя грымоты.
Блудзіць песьня ля аселіц,
Кліча сэрца у цянёты.

1959 г.

*
*　　*

Вясну пазносілі пчолы ў вульлі,
Замуравалі духмяную ў соты.
Усьплёскі праменьняў паклала на ноты
Турботнае сонца, — каб век гулі.

Ля хмараў восень вязуць жураўлі
З пад клёну, сосен пад пальмаў цянёты.
Сарваўшыся з поўначы мёрзлай Галготы,
Разгойсаўся вецер па голым гальлі.

Сумуюць сарокі па лісьцяў шасьце,
Шукаюць у сьмецьці зярняты шчасьця.
Палозьзем сьвішча на ўхабах зіма.

Прыгожы сон на досьвітку сьніцца,
І кратае вусны песьня сама:
На сьнег ураніла сьлязу крыніца.

1959

*
*　　*

У садзе, у зялёным гальлі,
Замоўк вясёлы хор птушыны.
Цяпло і ціша падняплі
Таўкач стозвонны камарыны.

Праменьняў дзіды ў сіняву
Вэнэра з сонца настругала.
Зямля схавала галаву
Пад ночы чорным пакрывалам.

Упяліў месяц у вакно
Касое вока з-паза хмары.
Яму усё, бадай, відно,
А я надзену акуляры.

Ад лаўкі ў садзе да сьцяны
Ляглі дзьве стуленыя цені.
Трымцяць, хістаюцца яны
У бела-срэбраным зіхценьні.

Пад сэрца комам зайздрасьць, млосьць
А ў небе зорак гэтак мала . . .
І мне чужая маладосьць
Паў ночы добрай адарвала.

1959 г.

**(Заканчэньне на 6-ай бач.)**

хотную вялікую хфігу носіце! Эх, Вашэця, Вашэця, казаў я некалі ўжо колькі разоў, ідзеце да нас на хвабрыку працаваць. Майму майстру парэкамэндую Вашэцю, як свайго чалавека. Будзеце ў яго за даверанага чалавека, пастараецеся яму ўсё ў вушы ўводзіць на тых гультаёў, дык ён і Вас зробіць старшым работнікам. Будзеце гонарам, як тым пугаўём, варочаць, далярчыкі сабе штодзённымі даробкамі ды 'овэртаймамі' выраблаць гэткія, што ў банку касіры будуць праводзіць зайдроснымі вачыма. Гэта-ж якое адчуваньне, калі знаёмы твар праз вакенца прымае ад сталага кліента чарговы чэк, каб дапісаць да колькі знакавых лічбаў яшчэ пару кругленькіх значкоў! А як калоціцца сэрца, калі бярэце з касіравых рук тую банкавую кніжку й вачыма вымяркоўваеце, ці не аблічыўся той стары служака. Але не, гад, меньш не напіша, але затое і больш ніколі не адаб'е на тых слупкох, дзе лічба па лічбе мае працоўныя мазолікі адбівае. Тады доўга любуешся тымі дадаткамі й за кажнай лічбаю прыгадваеш дакладна ўва ўсіх дэталях той дзень, калі насіў свае заробкі ў банк. Ого, колькі яны хаваюць у сабе пережытага і перадуманага! У тых лічбах захаваны на сподзе самыя патаемныя мары аб сваёй хаце, уласным гародчыку, садку, і нарэшце вялікай гаспадзе для людзей, якія будуць зноў-жа сплачваць мне рэнту і тым зноў памнажаць гэтыя лічбовыя слупкі на маім рахунку! Гэта, чалавеча, запраўды вартыя нашага ходаньня й нялюдзкіх стараньняў высілкі, а ня тыя Вашэцявы сініцы, што ўсё дарма ловіце ў тых пустых нябёсах.

— Не запярэчваю Вашых даляравых інтарэсаў, але й неба ня пустое, трэба толькі умець бачыць. Ніяк не пагаджаюся з Вашым азначэньнем нябёсаў, як пустых . . . — ледзь пасьпеў уставіць Пётра, як Хвядос Гадкоўскі зноў вырваў і пацягнуў далей нітку свае бясконцае размовы.

— А чым-жа яно поўнае, дазвольце ведаць Вашэця, тое неба? Вось Вашэця ўжо колькі гадоў, паводля маіх назіраньняў, узіраецеся ў ягоныя пустэльні, а тым часам карысьці з таго ні на палены шэляг: нябось і жонка ўжо неаднаразова лаялася на Вашэцява лайдацтва. Паробіце дзе які час, а затым на ваду ўцякаеце, рыбку ў вадзіцы лавіць, за матылькамі хлапчуком уганяцца! А на тым банкавым рахунку мусіць адно камарыкі вясельле спраўляюць! Ці ня так? — насьмешліва-дакаральным паглядам заглядаў у Пётравы вочы Хвядос у поўнай перакананасьці ў сваёй незраўнанай мудрасьці й бяспрэчнай чалавечай перавазе над гэтым абібокам і прапалым для справаў чалавекам.

Пётра маўчаў. Ён мала слухаў, а яшчэ меньш унікаў у сэнс Хвядосавых дакораў. Хвілінамі, калі ён даходзіў да ягонай сьведамасьці, яму здавалася, што магчыма той і мае рацыю дакараць яго. Ён прыгадваў найманую тут каля Рывэр Сайду гасподу, заўсёдныя жончыны клопаты аб жыцьцёвых патрэбах, дакорлівыя цёшчавы ўпікі, што зяць мала грошай дае на жыцьцё, незаўсёднае зразуменьне сярод сваіх і навет часам заўважнае адчужэньне. Яму на момант сталася сорамна за гэтае шлынданьне тут уначы па бульвару ў пошуках чагосьці невядомага й нязвычнага. На момант здалося, што Хвядос мае нейкую рацыю ды разам з тым і права, гэтай рацыяй дадзенае, крытыкаваць ягоныя паводзіны. Ён нічога не адказаў яму. А той сыпаў словамі, як гарохам далей і нібыта той калаўрот наматваў ўсё новыя маткі свайго, як здавалася яму, дасьціпнага й карыснага для перавыхаваньня страчанага чалавека, павучаньня.

Незаўважна ў сутані Пётравага роздуму і Хвядосавай гаворкі чорная ноч усё глыбей паглынага навакольле й зырчэй сьвяціліся зоркі ў цёмнай стыні. Набліжалася поўнач. Гадкоўскі затурбаваўся, што яму пара ўжо дахаты й трэба канчаць вечаровы спацыр: раніцай а шостай яго чакае зноў праца за варштатам, а пасьля зьмены новы заробак з двайною аплатаю да дзесятай гадзіны ўвечары.

— Вось ізноў прынясу за тыдзень больш соценкі! А калі яшчэ прыдзецца працаваць сыботу ды нядзельку, дык тут і за паўтары пераваліць! — з гонарам, выціскаючы пальцамі правай рукі гучную пстрычку ды сьведама падносячы яе бліжэй да Пётравага твару, каб той пазайздросьціў, выгукнуў на разьвітаньне Хвядос. Пётра адчуў, што той робіць гэта яму на злосьць. Адылі яго гэта зусім не кранула, і ён спакойна адказаў:

— Дай, Божа, зарабіць Вам і дзьве сотні! Гэта-ж прынясе Вам шмат радасьці ды значна памножыць Ваш капітальчык! Беражэцеся толькі, каб апошні ня стаўся на мейсцы Бога й не запанаваў цалкам ў Вашай душы. Бо можна гарой золата апанаваць, а душу на жабрацкай баландзе трымаць! Душы, душы ня страцьце, спадару Гадкоўскі! — кінуў усьлед яму Пётра, калі той, як ганарлівы гусак, надзьмуты сьведамасьцяй важнасьці свае лекцыі, пабег з паркавага ўзгорка на каменны ходнік, каб, перачакаўшы хвілінку перад чарадою машынаў, перасекчы вуліцу ды подбегам апынуцца каля сходаў шматпавярховае камяніцы. Хутка яго праглынула чорная пашча бліжэйшага ад рогу пад'езду.

А Пётра тымчасам атрасаўся ад нагнанага Хвядосам утрапеньня. Паступова ён вяртаўся да звычнага яму сузіраньня ночных дзіваў. Ён абапёрся абодвымі лакцямі на ўзбочыны каменнае агароды й абвёў вачыма далягляд. Перад ім наперадзе за ўзьнятай другім паверхам над зямлёю аўтадарогаю ў таемнай цемені ляжаў і нячутна кратаўся магутны Гадзан. Густая чарната толькі дзе-ні-дзе адбівала на сабе люстравыя пабліскі прыбярэжных ліхтароў. Час-ад-часу чуўся даўгі гудок параплаўнае трубы, і з далёкае чорнае смолі выносіліся пучкі прамяністага міганьня сьвятла на палубах.

Нью-Джэрскі высокі бераг удалячыні ледзь улоўнай, чарнейшай за дол ракі і мала адрознай ад бадай такога-ж цёмнага небасьхілу, палосай цягнуўся ў абодвы бакі й губляўся ў нявыразнай бяскрайнасьці. Адно толькі панатыканыя ў ім бязь меры агні, нібыта тыя сьвечкі на шакалядным каравай, праз увесь прасьцяг вырозьнівалі яго даўгою істужкаю з паўдня на поўнач. І адно толькі каляровыя рэклямы, што часінка-па-часінцы ўлучаліся зыркімі, вялізарнымі электрычнымі літарамі й вырывалі зь цемры абыякавы, прызвычаены да іх, зрок, каб увесьці ў голаў перавагу тога ці іншага вырабу амэрыканскае парфюмэрыі, і ажыўлялі той нярухомы непраглядны морак. Згасаў і за момант выбухаў чырвоны ліхтар на вяршаліне Нью-Джэрскай радыёвай машты. Ейны зялезны касьцяк зусім

# „Абаронцы“

(Заканчэньне з 3-яй бачыны)

заўсёды наступным парадкам: наперадзе йшла азброеная да зубоў калёна, за ёй хурманкі наладаваныя сялянскім дабром, а за імі «ясыр», г. зн. маладыя вясковыя хлапцы пад сільнай аховай, якіх пазьней «дабраахвотна» ўключалі ў аддзелы «за Русь».

«Штаб» тымчасам садзеў у найлепшых дамох, папіваў рэгулярна атрымоўваны ад Немцаў сьпірт, заядаў зрабаваныя ў сялянаў кумпякі й каўбасы ды выдаваў «загады» да жыхароў мястэчка й ваколіцаў. Усякае непадпарадкаваньне гэтым загадам разглядалася як «врэдзіцельство, сьвязь з парцізанамі» і т. п. «Віпаватага» неадкладна арыштоўвалі й скатаваўшы чаплялі яму на шыю дошку з напісам: «за связь с парцізанамі». З гэтай дошкай яго сьпярша абводзілі па вуліцах мястэчка, а пасьля публічна вешалі на рынку. У гэтакі спосаб загінуў мой добры знаёмы Мікалай Г. зь вёскі Путраніца (2 км. ад Лужкоў). Адзінай ягонай віной было тое, што ён меў прыгожую жонку, у якую закахаўся ахвіцэр «за Русь», а ён, як муж, ведама-ж, стаяў на перашкодзе.

Нямецкае камандаваньне глядзела на ўсё гэта праз пальцы, бо й ягонай мэтай было зьнішчыць якнайбольш «унтэрмэншаў».

Я ў той час жыў пару дзесяткаў кілямэтраў ад Лужкоў і аб усіх гэтых жудасьцях чуў ад жыхароў мястэчка, зь якімі час ад часу прыходзілася спатыкацца, але хутка й сам пабачыў гэтых «воінов».

Неяк у пачатку ліпеня 1943 г., я паважна захварэў і мясцовы лекар накіраваў мяне на апэрацыю ў Лужкі. На другую, ці трэцяю ноч пасьля майго прыбыцьця ў шпіталь, мы ўсе былі разбуджаныя грукатам у дзьверы, а пасьля крыкамі з бруднай расейскай лаянкай. Нехта прабягаў з канца ў канец па калідоры, нехта плакаў і г. д.

У маім пакоі ляжалі толькі цяжка хворыя, або пацыенты перайшоўшыя апэрацыі, так што ні адзін з нас ня мог падняцца каб пайсьці й даведацца, што сталася. Толькі праз якое паўгадзіны ў пакой увайшла знаёмая мне сястра сп-ня К. На нашыя пытаньні што сталася, яна адказала, што нічога асаблівага, папросту пасварыліся, або навет пабіліся шпітальныя працаўнікі. Пэўна-ж ніхто з нас ёй не паверыў, бо яна была страшэнна ўзрушаная й дрыжэла на ўсім целе. Пад раніцу калі ўсе пазасыпалі, яна йзноў увайшла ў пакой, каб зьмяніць кампрэс. Бачачы, што яна зусім супакоілася, я пачаў ізноў яе дапытвацца, што сталася, паклікаючыся на нашае старое сяброўства. Тады яна, пабялеўшы на твары, сказала: «Ты не забывайся, што я маю тутака бацькоў і сям'ю і тое што ад мяне пачуеш ты не павінен казаць нікому! Ахвіцэры «за Русь» прыходзілі ў шпіталь, каб забраць наркотыкі, але др. С-кая (загадчыца шпіталя) не дала ім ключоў ад панцырнай шафы, дзе яна перахоўвае тыя-ж наркотыкі. Яны сьпярша моцна пабілі ейнага асыстэнта, а пасьля пагражалі ёй пісталетамі, але бязь ніякага выніку. Далей яны хацелі ўзарваць шафу гранатамі, але др. С-кая прыкрыла яе сваім целам і сказала: «Можаце ўзарваць гэтую шафу,, але толькі разам са мной, бо наркотыкі прызначаныя для хворых, а не для распусты». Яны ўканцы адыйшлі, але на адыходным прыгразілі, што калі хтось будзе гаварыць аб гэтым, «праспацэруецца з дошкай на грудзёх».

Я пралежыў у шпіталі яшчэ колькі тыдняў, але мне здаецца што пры мне аматары наркотыкаў больш не зьяўляліся. Ня ведаю ці на іх падзейнічала запраўды гэраічная пастава др. С-кай, ці штось іншае, але я ўжо больш ня чуў аб іх.

Калі я выпісаўся із шпіталя, я быў змушаны прайсьці пехатай на другі канец мястэчка да маіх сваякоў, якія мелі мяне завезьці дадому. Вось тады я пабачыў запраўднае аблічча гэтых «асвабадзіцеляў». На кажным кроку пападаліся п'яныя жаўнеры расьпяваючыя розныя «кацюшы» ды іншыя савецкія дрындушкі. Гэтае зборышча ня выглядала на ніякую вайсковую адзінку, яно папросту выглядала на татарскую арду ў апісаньні сярэднявяковых пісьменьнікаў.

Асабліва мне ўдалося ў памяць наступнае: на вэрандзе прыгожага дому, (ён калісь належыў да буйнага гандляра лесам) ахвіцэр з доўгім чубам, які зьвісаў з пад насаджанай на адно вуха нямецкай шапкі, наразаў на гармошцы частушкі. Іншы з цыгаркай у зубах сядзеў разваліўшыся на крэсьле, а каля ягоных ног стаяла на каленях дзяўчына апранутая толькі ў кароценькія портачкі й бюстгальтар ды чысьціла ягоныя й без таго ўжо наглянцаваныя боты.

Калі я параўняўся з домам, дзяўчына падняла галаву й я пабачыў яе заліты сьлязамі твар. Гэта была Жыдоўка — дачка вельмі шанаванага ў мястэчку за ягоную дабрату й сумленнасьць сп. М. В. — былага ўласьніка аптэкі. Прайшоўшы яшчэ некалькі дзесяткаў крокаў, мяне мінула зь вёдрамі ў руках мая былая школьная сяброўка Э. Э. Яна была апранутая таксама толькі ў купальнік і я адразу заўважыў на яе аголеных руках і нагах вялікія сінякі. Я паклікаў яе, але яна не адвяртаючы галавы хуценька сказала: «Не гавары да мяне! Ты ня ведаеш, што забаронена гаварыць з намі?» Сказаўшы гэта яна пабегла далей. Таму што я ішоў вельмі павольна, перашкаджала яшчэ ня зусім загоеная рана па апэрацыі, я ізноў спаткаў яе, ужо з поўнымі вёдрамі. «Эця! — паклікаў я яе, — чаму вы абедзьве так апранутыя, сяньня-ж сьцюдзена. (Не гледзячы на пачатак жніўня дзень быў сьцюдзёны). Яна пужліва азірнулася наўкола й прыцішаным голасам сказала: «Так трэба, гэта загад гаспод ахвіцэраў. Ідзі, ідзі хутчэй, не затрымоўвайся са мной», — дадала яна й зьгінаючыся пад цяжарам поўных вёдраў, пабегла ў старану дому з вэрандай.

Тады я зразумеў. Усходнія кацыкі хацелі мець поўнае ўяўленьне адалісак-нявольніц. Яшчэ добра, што ня змусілі іх хадзіць зусім голымі!

Пару месяцаў пазьней большая частка гэтай «доблеснай» арміі перайшла на старану партызанаў, замардаваўшы перад адыходам некалькі жыхароў мястэчка. Характэрна й тое, што ўсе пападаваныя былі сьведамымі Беларусамі.

*

Пачатак красавіка 1945 году. Віхор вайны закінуў мяне зь сям'ёй у Прагу. Такіх як мы там было тысячы, а можа й дзесяткі тысячаў. У кажнага-ж у галаве была адна толькі думка: за ўсялякую цану прабірацца далей на захад, бо з усходу насоўвалася чырвоная навала. Настрой у месьце быў вельмі трывожны, бо для нікога ня было тайніцай, што шыкуецца паўстаньне. Па доўгіх і цяжкіх стараньнях, аднаго вечара мой знаёмы вярнуўся з радаснай весткай. За некалькі фунтаў вандліны й дзесятак пачак папяросаў, ашчаджаных яшчэ з Бацькаўшчыны, ён дастаў ад чыгуначнікаў дазвол заладавацца ў таварны цягнік, які адыходзіў гэтай-жа начы дзесь на захад. Куды йдзе цягнік нас ня цікавіла — абы далей на захад!

Упоцемкі прабіраемся на таварную станцыю й па доўгіх пошуках нарэшце знаходзім наш цягнік. Зь вялікім трудам, з просьбамі й пад лаянку нямецкіх чыгуначнікаў нам удаецца ўлезьці ў і без таго перапоўнены вагон. Адразу-ж за намі з грукатам зачыняюцца цяжкія дзьверы. Праз якое поўгадзіны цягнік рухаецца зь месца. Цёмна, душна й страшэнная цесната. Няма змогі выпрастаць анямеўшых ног, бо ўсьцяж натыкаешся на чыесь плечы, ногі, або й галаву.

Ня ведама колькі часу трывае нашае падарожжа — паўгадзіны, гадзіну, а можа й дзьве. Раптам із страшэнным скрыгатам тармазоў цягнік стае. Звонкі даносяцца выкрыкі на нямецкай й чэскай мовах, але ўвесь гэты гармідар пакрывае густы расейскі «мат». Адчыняюцца дзьверы й хтосьці на ламанай нямецкай мове загадвае нам усім выйсьці. Выходзім. Ізноў паўстае страшэнны гвалт. Перапуджаныя людзі клікаюць адзін аднаго, бо пагубляліся ў часе выхаду. Імжыць дробны, але вельмі зімны вясеньні дождждык, ён асабліва адчуваецца пасьля душнага вагону.

Нарэшце гэты самы голас загадвае нам ісьці ўрдоўж цягніка. Пры ўзблесках электрычнага ліхтарка бачым нямецкія ўніформы з чырвонымі зоркамі. Праз некалькі хвілінаў нам загадваецца затрымацца й сесьці на зямлю. Садзімся. Недзе ў гары загараецца электрычная лямпка. Пры яе ніклым сьвятле можам крыху прыгледзіцца да нашых перасьледнікаў. Некалькі зь іх у цывілнай вопратцы з чырвонымі істужкамі й зоркамі на кляпах, апошнія-ж усе жаўнеры РОА з такімі-ж зоркамі.

Ахвіцэр і некалькі жаўнераў з аўтаматамі ў руках ходзяць паміж людзей і сьвецячы электрычнымі ліхтарыкамі заглядаюць у вочы кажнаму. Відавочна кагось шукаюць. Па якойсь гадзіне гэтакіх пошукаў у некалькі галасоў выклікаюць неякае расейскае прозьвішча і як ашалелыя мітусяцца ад групы да групы. Пераходзячы зь месца на месца не разьбіраюць дарогі й топчацца па руках і нагах сідзячых на дажджы людзей. Нарэшце гасяць лямпачку ў гары й адыходзяць. Перад адыходам ахвіцэр выдае загад нікому ня рухацца зь месца й замацоўвае яго «трохпавярховым».

Дождж ідзе далей. Навокал чуваць дзіцячы плач і прыцішаныя галасы дарослых. Неба пачынае пакрысе шарэць. Праз некаторы час мы можам разглядзіцца дзе мы знаходзімся. Аказваецца, што нас загналі ў чыгуначны тупік, з трох старон абнесены калючым дротам. Недалёка на насыпе стаіць неякі цягнік і з коміна паравозу ідзе дым. Некалькі адважнейшых ідуць у бок цягніка й хутка вяртаюцца зь весткай, у якую ніхто з нас ня хоча верыць. Аказваецца, што гэта «наш» цягнік і машыністы пагаджаецца ехаць далей. Ён падобна сказаў наступнае: «Быў загад выехаць з Прагі — я паехаў, быў загад затрымацца, — затрымаўся, а цяпер з прыемнасьцяй паеду далей, бо мой «гаймат» там на захадзе».

З пасьпехам і як хто можа і ўмее ладуемся ізноў у цягнік і за якіх 15-20 хвілін едзем далей. Людзі пакрыху пачынаюць ажываць. Некаторыя навет прабуюць жартаваць з нашых начных тарапатаў. Недалёка ад мяне сядзіць старэнькая бабулька, якая трымае ў руках абразок Божае Маці й моліцца да яго. З другой стараны немалады каталіцкі сьвятар, раз па раз засоўвае руку ў абшэрны рукзак, выцягвае адтуль кавалкі нямецкага «кухану» й падае яго далей сідзячым маткам з малымі дзецьмі.

Але нашае шчасьце ня трывае доўга. Цягнік падае некалькі кароткіх сыгналаў і затрымоўваецца ў чыстым полі. Адчыняюцца дзьверы з абедзьвюх старон вагону й мы ізноў бачым уніформы РОА із зьненавіджанымі зоркамі, выразанымі зь неякай тканіны й прычэпленымі да пагонаў.

Загадваюць усім асобам нямецкае нацыянальнасьці выйсьці на правы бок вагону, а ўсім «аўслендарам» на левы. Ведама-ж, што мы кіруемся на левы, але сусед-сьвятар тузае мяне за рукаў і вачыма паказвае направа. Інстынктоўна робім тое, што нам загадвае ягоны зрок. І гэта ратуе нас. Для мяне й сяньня ёсьць загадкай, што пабудзіла яго тады даць нам гэту збаўчую раду.

Па выхадзе з вагону нам ізноў загадваюць сесьці на зямлю. Цяпер пад коламі вагону мы можам бачыць, што дзеецца на другім «аўслендарскім» баку. Першае, што мне кідаецца ў вочы гэта бабулька з абразком, а перад ёй ашалелы, размахваючы пісталетам, ахвіцэр РОА. Не магу й не хачу паўтараць усёй тэй бруднай лаянкі, якая сыпалася на галаву беднай бабулькі. Праз гэты зьвярыны роў раз па раз чуліся гістэрычна выкрыкваныя «ізмена» і «родзіна». Нарэшце кароткі ўзмах кулака й бедная «ізменніца» пакацілася ўніз з колькімэтровага насыпу. Я ня мог больш глядзець і адвярнуў галаву. Сьвятар спакойна пераліставаў карткі маліцьвеніка й ціха маліўся, пэўна за супакой душы бабулькі.

Енкі катаваных, лаянка й стрэлы, трывалі яшчэ каля гадзіны, але ўканцы некалькі дзесяткаў жаўнераў абкружылі «аўслендараў» і пагналі іх у кірунку скуль прыйшоў цягнік.

Ахвіцэры ў асысьце жаўнераў з аўтаматамі ў руках перайшлі на нашую старану. Тутака абыйшлося без асаблівых «праяваў улады». Папросту загадалі адчыніць скрынкі й разьвязаць падарожныя хатулі. Праўда, дзе каму дасталася ручкай ад аўтамату, або папросту кулаком, за павольнае выконваньне загаду. Жаўнеры перавярталі скрынку, або хатуль і вытрасалі ўсё што было ў сярэдзіне на зямлю, а ахвіцэры нагамі падкідвалі ўсялякае барахло, час ад часу нагінаючыся й вылаўліваючы больш вартасныя рэчы. Мой сусед-сьвятар з чаруючай усьмешкай разьвітаўся із сваім прыгожым гадзіньнікам. Скончыўшы «агляд» нашых рэчаў, нам сказалі, што мы можам ісьці далей.

Наступнага вечара мы спаткалі першыя амэрыканскія танкі.

*

Сяньня пасьля 15 год ад гэтых перажываньняў, калі хтосьці гаворыць аб дадатняй, а тымбольш «вызвольнай» дзейнасьці ўласаўцаў, — мне заўсёды прыпамінаецца мая школьная сяброўка Эця, у купальніку на пасінячаным целе й бабулька з абразком Божае Маці ў руках.

*

Не хачу спрачацца аб тым, бралі ці ня бралі ўласаўцы ўдзел у «вызваленьні» Прагі. Але калі й бралі, то напэўна не па тое каб дапамачы Чэхам, або выратаваць асуджаных на сьмерць Жыдоў. З чырвонымі зоркамі, выкраенымі насьпех з неякае подшаўкі, яны ішлі адкупляць сваю віну прад «бацькам народаў». Але бедакі аказаліся кепскімі псыхалёгамі, бо ня ведалі псыхікі навет сваіх суродзічаў.

**В. Дзісьненскі**

**НІВОДНАЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ, ТАВАРЫСКАЯ Й СЯМЕЙНАЯ ЎРАЧЫСТАСЬЦЬ НЕ ПАВІННА АДБЫЦЦА БЯЗ ЗБОРУ СЯРОД ПРЫСУТНЫХ АХВЯРАЎ НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»!**

## *Ліст у Рэдакцыю*

Паважаны Сп. Рэдактар!

Гэтым ветліва прашу зьмясьціць на балонках «Бацькаўшчыны» наступнае выясьненьне.

Прачытаўшы ў «Бацькаўшчыне» № 6 (490) карэспандэнцыю, некаторыя беларускія праваслаўныя вернікі памылкова ўявілі, што нібы я прымаў удзел на Багаслужбе ў Марыянскім Доме дня 24 студзеня 1960 году.

Каб унікнуць на прышласьць падобных непаразуменьняў, я гэтым ветліва паведамляю, што ў Англіі апрача пратаярэя Аляксандра Крыта, які належыць да юрысдыкцыі БАПЦарквы, ёсьць сьвятар а. Аляксандар Надсон з Рыма-Каталіцкае (вуніяцкае) Царквы, які й адпраўляў з а. д-рам Чаславам Сіповічам Саборную Багаслужбу дня 24. І. 60.

**Прат. а. Аляксандар Крыт**

Джэрскія лясы. Паступова чародкі меньшалі ў памеры й таялі ў бяздонным блакіце. Дзе-каторыя перад адлётам апушчаліся яшчэ пасядзець у густой зяленіве паркавых дрэваў. Пад цяжарам сотняў шпакоў прыгіналася вецьце, дрыжэлі росныя лісьцікі ад дружнае песьні ў славу новаму дню.

Паступова, за якую поўгадзіну, усе шпакі разьляцеліся, распаліся на драбнейшыя групкі ды расьсеяліся ў далёкіх абшарах.

Пётра Абуховіч яшчэ доўга тае раніцы шнураваў уздоўж Гудзану па парку ды ўсё думаў аб таямніцы птушыных вандровак. У гэтыя часіны яму здавалася, што ніякай навукай нельга растлумачыць таго, што трымаецца вякамі й будзе вечна жыць у прыродзе. Вось ужо колькі сотняў гадоў існуе арніталёгія, што вывучае пёрыстае насельніцтва на зямной кулі, а дагэтуль ніхто нічога ня ведае пра законы міграцыі птушак. Чым растлумачыць хоць-бы сабе той факт пра гэтых шпакоў? Іхныя пабрацімы ў Эўропе з такой-жа кліматычнай паласы на зіму пакідаюць наседжаныя гнёзды й вылятаюць на поўдзень Італіі, у Сыцылію або паўночную Афрыку, каб на лета зноў вярнуцца да родных куткоў. А гэтыя нью-ёрскія шпакі, з тых часоў, як іх у канцы мінулага стагодзьдзя прывезьлі з Ангельшчыны й выпусьцілі ў Цэнтральным Парку ў Нью-Ёрку, гэтак і засталіся тут на ўвесь год. Дарма, што суворай зімою, як леташняй, іх гіне безьліч (у сёлетнім студзені ў лютыя марозы й сіверы скалелымі імі наладоўвалі цэлыя машыны), а яны усё-адно не пакінулі сваіх мейсцаў. Больш таго, заместа таго, каб хавацца ў зацішку ад ветру дзе-небудзь пад дахам, яны штовечара зноў і зноў ляцелі на тыя-ж адчыненыя ўсім праймам ветру й сіверу рэклямавыя рэйкі і там калені да раніцы. Пасьля кажнае начы іхні калектыў не далічваў соцен братоў і сёстраў, але яны стала ды ўпорыста пасьля дзённых розьведаў спажывы ўвечары зноў вярталіся тым-жа, ужо адвечным для іх, шляхам на тыя-ж абледзянелыя латы, каб зноў у лютым холадзе праз усю бясконца даўгую зімовую ноч чакаць тае жаданае раніцы. І гэтак кодзень за коднем і ўсё тым-жа наканаваным шляхам!

«Не, тут ёсьць нейкая незразумелая чалавеку тайна! А як на мой розум, дык гэта мусіць інстынкт да зграмаджаньня як і вялікая, непераможаная ніякай сьмерцяй, любоў да жыцьця кіруе іхнімі паводзінамі, — падумаў Пётра. — Ці ні тая гэта любоў, аб якой калісьці Гётэ казаў у дачыненьні да расьлінаў. Шпаковая сьхільнасьць трымацца жыцьця грамадой і змушае іх увесну толькі на самы кароткі час, і пры гэтым пераважна матак, пакідаць сваё гарадзкое паселішча, каб у лясох у гнёздах узгадаваць малых, а затым і іх прывесьці сюды на сталае жыцьцё.

А чалавеку варта старацца разгадаць тайну, якая штодня водзіць пёрыстых па тых шляхох. І каб ён дзень і ноч разгадваў гэтыя дзівы, ён не марнаваў-бы час дарэмна. І хіба-ж ні па такіх-жа самых адвечных дарогах і сьцежках водзіць тайна жыцьця чалавека па зямной юдолі і то кідае яго ў безнадзейную прорву, а затым раптам ўздымае яго на вышыню, адкуль становіцца гэтак далёка вакол відаць, што, здаецца, сонца ніколі й не заходзіла за цёмны далягляд? І шкада, што ня ўсім дадзена магчымасьць сузіраць гэтыя тайны жыцьця, а Гадкоўскім лёс навет ня даў і дару ды ўменьня чытаць мудрую кнігу жыцьця. А каб і яны пабачылі ягоны сэнс, адчулі ягоную прыгажосьць, дык тады-б і не ўганяліся-б адно толькі за карысьцяй. Але што казаць, Гадкоўскіх скрозь шмат і іх куды больш за рамантыкаў нашага гатунку. Але як ні гняце жыцьцё й ні камечыць яго гэты хцівец, ні яму перамагчы час. За нас гарою стаіць само жыцьцё й гэты цуд, разьліты скрозь у навакольлі. Няхай-жа жыве й квітнее далей той чар любові й беспасярэдняга дотыку да радасьцяў пярэстага й шматколернага сьвету» — абагуліў Пётра.

Па дарозе дахаты Пётру якраз і напаткаўся зноў кагадзе згаданы ім Гадкоўскі. У зашмальцаванай машынным маслам шкуранцы, прыгноблены й пазелянелы тварам ад недасыпаньня, разьмінаючыся з Пётрам, ён адно пасьпеў кінуць:

— Го, дык Васпан яшчэ і ня спаў, усё на зоркі дзіваваўся. Усё адно, колькі ні лічыце — не пералічыце! Вы лепш працавалі-б ды далярчыкі лічылі-б! Гуд-бай! Да пабачаньня, Рывэр-Сайдзкі мрыйнік!

І Гадкоўскі пабег шпарка да сабвэйнае станцыі, каб пасьпець на працу. А Пётра праводзіў яго думкаю:

«Спалі іх, пярун, тыя далярчыкі! Не ганяўся я за імі раней праз меру, і цяпер ня буду. Як бяда моцна прыцісьне, пайду зараблю іх трохі, каб на хлеб было. Але каб яны мне засьцілі сьвет Божы, сіняву нябёсаў чорнаю сажаю пакрывалі, радасьць пазнаваньня адымалі, дык не, гэтага ня станецца! Няхай імі адно тыя, хто дзеля іх жыве, захапляецца. Яна выйдзе некалі бокам тая даляровая ліхаманка, яшчэ й бяды наклікача, чаго добрага. А мяне яна не заняволіць, лепш застануся бедняком, але затое вольным птахам з вышыні буду аглядаць зялёныя долы ды слухаць песьню жаўрукоў у чыстым небе. Сонечнай раніцы паклонам угнуся, але ні твайму ідалішчу, карысьлівы чалавеча, ні багомленай табой Мамоне.»

І Пётра шырака расчыніў вочы, каб увабраць перад адыходам дахаты яшчэ раз і той кавалак ласкавага неба, што абяцаў добры пагодны дзянёк, і далячынь разлеглае ўва ўсю шырыню прасторы, у якой нядаўна пазьнікалі шпаковыя чароды, і іскрыстыя воблескі на серабрыста-гульлівым Гудзане, ужо заліваным ад іншага берагу й да сярэдзіны празрыстаю белатою ранішняга сьвятла.

. . . А пад вечар у Пётравым доме разьнеслася сумная вестка. Гадкоўскі моцна параніўся на працы. Станочнаю пілою яму адрэзала ўсю пяцярню правае рукі. З жонкаю здарыўся прыпадак, калі яна пачула пра няшчасьце. З пярэпалаху яна запрытомнела. Лекар хадаўся з добрую гадзіну, пакуль яна адыйшла. Суседзі аднагалосна дзяўблі:

— Загнала яна свайго чалавека. Усё вымагала больш тых заробкаў. Вось яно і выйшла бокам. Цяпер інвалідам чалавек будзе. От, гадаўка!

А Пётра употай дакараў сябе, чаму ён некалі таксама падумаў, што тыя далярчыкі бокам выйдуць. Гэта-ж бываюць такія злыя хвіліны, калі сказанае спраўджваецца. Шкада чалавека!

12—18 лістапада 1958, Нью-Ёрк.

